© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

19 снежня 2014 года №51 (1025)






**Рэцэпты страў да навагодняга стала**

Фрыкасэ з індычкі і парады ад шэф-повара. Рулеты з курыцы, салата-рулет "Пянёк", салата "Авечка", а таксама абавязковы сёлета дэсерт

старонка 20-21

**Як будуць працаваць паліклінікі і транспарт на святы** с. 2

**20-гадовы махляр прасіў купіць мабільнікі ў растэрміноўку. Пацярпелых больш за 100** с. 4

**Як французскі суп з цыбулі стаў вясельным** с. 6


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Прызначылі кіраўніка Смаргоншчыны

**СМАРГОНЬ.** Прэзідэнт Беларусі 15 снежня разгледзеў кадравыя пытанні. Кіраўнік дзяржавы ў тым ліку прызначыў **Генадзя Харужыка** старшынёй Смаргонскага райвыканкама, паведамляе president.gov.by. Генадзь Харужык нарадзіўся 27 ліпеня 1966 года ў вёсцы Паніжаны Смаргонскага раёна. Апошнім часам ён кіраваў Смаргонскім камбінатам хлебапрадуктаў.

### У Івянецкім сельсавеце стала меней на тры вёскі

**ВАЛОЖЫН.** На сесіі раённага Савета дэпутатаў 28 лістапада падтрымалі праект рашэння аб скасаванні вёсак Абрамаўшчына, Войткаўшчына і Мельцінава Івянецкага сельсавета. Апошнія жыхары згаданых населеных пунктаў памянялі месца жыхарства ў 1996 годзе. Гэтыя тэрыторыі ўключаць у спіс зямель гаспадарчага карыстання.

### Ля Вілейкі загінуў раварыст

**ВІЛЕЙКА.** Дарожна-транспартнае здарэнне са смяротным зыходам адбылося паблізу вёскі Порса Вілейскага раёна. Адбылося гэта 13 снежня каля васьмі гадзін раніцы. Мясцовы жыхар на аўтамашыне "Пежо" наехаў на 45-гадовага раварыста, жыхара вёскі Більцавічы. Мужчына загінуў, паводле ДАІ Беларусі.

### Працуе выстава пра Максіма Танка

**МЯДЗЕЛ.** Ад 9 снежня ў музеі народнай славы працуе літаратурна-дакументальная выстава "Максім Танк. Гартаючы жыцця свайго старонкі…". Яна з фондаў музея гісторыі беларускай літаратуры. Выстава знаёміць з жыццёвым і творчым шляхам народнага паэта Беларусі. На стэндах можна пабачыць выявы дакументаў, рукапісаў, фатаграфій, вокладак кніг. Выставу зладзілі да 100-годдзя з дня нараджэння паэта. За два гады пабывала яна ў Глыбокім, Навагрудку, Варшаве, Вільні. Працаваць будзе да 15 студзеня наступнага года.

Аддзел інфармацыі.




• ЭВАКУАЦИЯ АВТОСПЕЦТЕХНИКИ
• БУКСИРОВКА
• ВЫТЯГИВАНИЕ ИЗ КЮВЕТОВ
• ПЕРЕВОЗКА ГРУЗОВ

грузопод. 2,3 т, длина платформы 5 м, ширина 1,95 м, авто-полноприводной 4х4
Т. (8-029) 663-65-38, (8-029) 271-24-77, (8-0176) 73-65-38

ИП Тесленко Н.Ю. УНП 600564375


# Абвал расійскага рубля скалануў і наш рынак

**На гэтым тыдні беларусы напружана адсочвают навіны па курсе расійскага рубля, а таксама па беларуска-расійскіх адносінах. Якім чынам гэта адбіваецца на жыхарах рэгіёна і які прагноз бачаць эксперты?**

Паведамленні пра тое, што ў абменніках Расіі няма валюты, а з паліц крамаў скупляюць тавары, ідуць на фоне нядаўняга абмежавання на пастаўкі беларускай мясной прадукцыі і забароны на ўезд у Расію транзітных цягнікоў з прадуктамі.

Як расійскі крызіс адбіваецца на мясцовым узроўні, мы папрасілі ацаніць намесніка генеральнага дырэктара па камерцыі і эканамічных пытаннях Маладзечанскага завода металаканструкцый (МЗМК) **Дзмітрыя Купрыянава**.

Ён тлумачыць, што падзенне расійскага рубля негатыўна ўплывае як на прамысловую, так і на харчовую вытворчасць. Традыцыйна асноўны рынак збыту для беларускіх прадпрыемстваў – расійскі. Гэта асабліва адчувальна для завода, які ў свой час меў саюзнае значэнне і адпаведна працуе з расійскімі партнёрамі, Прыбалтыкай.

Што тычыцца пошуку новых партнёраў, то дамагчыся гэтага няпроста. Еўрапейскія кампаніі ўжо маюць сталых пастаўшчыкоў. І хаця якасць свайго тавару Дзмітрый Купрыянаў лічыць някепскай, вялікіх надзей на еўрапейскага пакупніка не мае.

Ад новага года МЗМК плануе пастаўляць на Літву каля тысячы тон прадукцыі. Але глыбейшы рух на захад малаверагодны. Расія застаецца асноўным партнёрам, таму што менавіта яе рынак адпавядае магутнасцям завода. Пры аб'ёмах вытворчасці ў 20 тысяч тон на год неабходны сур'ёзны збыт. Апошнія мясцовыя праекты – маладзечанскія цэнтральная бібліятэка і спартыўна-забаўляльны комплекс. Такія заказы не загружаюць завод. Для працы на поўную моц неабходны продаж у Расіі.




Фота zyalt.livejournal.com

**У сераду, 17 снежня, на сайтах і ў сацыяльных сетках з'явіўся шэраг фота чэргаў у крамах Расіі. Людзі імкнуцца пазбавіцца ад рубля, скупляючы ўсё.**

**50% загрузкі вытворчых магутнасцяў завода залежаць ад расійскага збыту.**

Яшчэ адна праблема, якая стаіць перад заводам, – закупка сыравіны. Дробныя прадпрыемствы могуць закупляцца на ўнутраным пазабіржавым рынку. МЗМК абавязаны закупляць сыравіну на ўнутраным біржавым рынку, які ставіць больш высокія цэны.

Намеснік дырэктара МЗМК адзначае, што цяпер складана і завод мае страты, але крызіс часовы.

На пытанне, ці плануюць на заводзе скарачэнні, Дзмітрый Купрыянаў адказвае:

– Скарачаць – гэта сацыяльна няправільны падыход. У нас не так проста знайсці працу, асабліва маладым спецыялістам і тым, у каго набліжаецца пенсія. Скарачаць не плануем. Для чалавека ж усё гэта робіцца. Каму трэба будуць высокія паказчыкі, калі не будзе чалавека.

Спецыяліст падсумоўвае, што з падзеннем рубля беларускі рынак сур'ёзна прагнуўся.

### Рэальны курс рубля павінны вызначыць рынак

Аб тым, што чакае беларускі рубель, мы папрасілі даць прагноз эканаміста і аналітыка **Сяргея Чалага**.

**– Ці можа Расія яшчэ абмежаваць пастаўкі з Беларусі?**

– Пытанне рашаецца, ніякіх заяў я пакуль не чуў. Для чаго гэта ўсё было, незразумела. Магчыма, імкнуцца абмежаваць імпарт.

**– Якой вы бачыце перспектыву для прадпрыемстваў?**

– Чым горш прадпрыемству, тым горш работнікам. Зарплата стане меншай. І калі ёсць пытанне са збытам, няма сэнсу працаваць на склад.

**– Які прагноз па беларускім рублі на пачатак 2015 года?**

– Цяперашні курс беларускага рубля завышаны, праблема абвастрылася. Вылічыць рэальны курс сёння немагчыма. Вызначыць яго можа толькі рынак. І магчыма гэта тады, калі Нацбанк перастане ўсё раўняць пад лінейку, чым ён займаецца ад жніўня 2013 года.

Неабходна даць самому рынку знайсці раўнавагу. Вядома, у прадпрыемстваў будуць праблемы з пастаўкамі, прадаваць больш няма каму. Любы расійскі крызіс ўмомант адбіваецца на Беларусі праз знешні гандаль.

Але львіная доля цяперашніх праблем створаная рукамі. Год таму беларускую праблему можна было вырашыць, цяпер жа ў нас толькі два шляхі: ці сцэнар 2009 года, ці 2011-га. Грошай відавочна не хапае.

**– Што б вы параілі шараговым беларусам?**

– Пытанне, як праблему будуць вырашаць. Увесь 2011 год была прыкладна аналагічная сітуацыя, калі спрабавалі выплыць без дэвальвацыі. І да чаго прывяло? Мы гэта ўжо праходзілі, нашы людзі навучаныя крызісамі і хутка рэагуюць: ад кастрычніка-лістапада павысіўся попыт на валюту. Я не бачу крокаў, якія маглі б супакоіць сітуацыю. Усе дзеянні будуць запозненымі.

Эксперты адзначаюць, што крызіс – часовая з'ява.

Зоя ХРУЦКАЯ.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



НАМ ПІШУЦЬ

# Свінакомплексы зруйнуюць нашы мары

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН. Яны пераехалі з горада ў вёску, каб дыхаць чыстым паветрам. Аднак пасля будаўніцтва свінакомплексу ля Соўлава яно можа набыць водар гною. Сям'я даслала ліст у рэдакцыю, дзе распавяла сваю гісторыю.**

"Тры гады таму мы з мужам вырашылі пераехаць з горада ў вёску. Аб'ездзілі паўсвета і ўсю Беларусь у пошуках прыгожых мясцін і ўтульнай хаты. І як толькі мы трапілі на Валожыншчыну, зразумелі, што будзем жыць тут. Маляўнічыя краявіды, узгоркі, вятры. У суцэльна плоскай Беларусі такое рэдка можна ўбачыць. А гэта Ашмянскае ўзвышша нават называюць беларускай Швейцарыяй.

У вёсцы Лохаўшчына Гародзькаўскага сельсавета мы купілі стогадовы дамок і сталі абжывацца. І не маглі нарадавацца, што, нарэшце, брудны, загазаваны, бетонны горад з пашкоджанай экалогіяй застаўся далёка ад нас.

**Тры гады мы вырошчваем натуральную гародніну, п'ём калодзежную ваду, займаемся фізічнай працай, рамантуем дом, праводзім камунікацыі і папраўляем сваё здароўе, крыху падсапсаванае гарадскім жыццём.**

І гэты край прывабіў не толькі нас.

У некалькіх кіламетрах – хутар Шаблі, на якім штолета ладзяцца фестывалі, сярод якіх і шмат каму вядомы "Вольнае паветра".

Сюды на фэсты прыязджаюць тысячы беларусаў і іншаземцаў, каб пабавіць час на свежым паветры, паслухаць любімую музыку. Фестывалі ігранаць на руку не толькі прыезджым, але і мясцовым. За дні канцэртаў мясцовыя крамы значна папаўняюць сваю выручку.

Уладальнік хутара **Уладзімір Шаблінскі** летась нават атрымаў ўзнагароду "За ўнёсак у развіццё турызму і агратурызму Валожынскага раёна" ад начальніка аддзела спорту і турызму Валожынскага райвыканкама. І ўзнагарода сапраўды заслужаная.

Пра гэты край даведалася шмат маладых, творчых, актыўных людзей. І многія з іх сталі купляць сабе дамкі ў суседніх вёсках – Малое і Вялікае Запруддзе, Лоск, Кашчэлічы, Лохаўшчына, Высокае. Таксама робячы, такім чынам, унёсак у эканоміку рэгіёна.

Але хто б мог падумаць, што зусім побач запланаюць пабудову гіганцкага свінакомплексу на сто тысяч галоў у год. Жыхары Валожыншчыны не асабліва непакоіліся – гэта ж Маладзечанскі раён. Аднак як высвілілася, будучы свінакомплекс мусіць паўстаць на мяжы з Валожынскім раёнам. І бліжэйшыя вёскі Рудзеўшчына і Высокае знаходзяцца ў менш як кіламетры ад меркаванай фермы. А ў пяцікіламетровую зону ўваходзяць дзясяткі вёсак. У тым ліку – хутар Шаблі і цэнтр сельсавета – Гародзькі.



Фота з архіва Саламеі Грынь

Справа жыхарка Лохаўшчыны Саламея Грынь, а побач з ёй — госця з Японіі Тамока.

Па іроніі лёсу фестывалі пад назвай "Вольнае паветра" рызыкуюць набыць зусім іншы водар – гною, а не кветак.

І жыхары рэгіёна таксама будуць вымушаныя пакутаваць ад паху, забруджанай вады ды іншых наступстваў. Таму мы ініцыявалі збор подпісаў сярод мясцовага насельніцтва супраць будаўніцтва. На сёння сабралі больш за сто. А калі ўлічыць працэнтныя суадносіны колькасці насельніцтва, то гэта вельмі вялікая лічба.

Не трэба лічыць, што толькі ў горадзе жывуць людзі і толькі маладзечанцы маюць права змагацца за свае жаданні.

**Мы таксама людзі, і ў нас таксама ёсць мары: жыць на чыстым паветры, піць чыстую ваду.**

Аднак падлікі спецыялістаў руйнуюць гэтыя мары. І нам нічога не застанецца, як прадаваць сваё жытло і з'язджаць у пошуках новага раю. Але хто купіць дом ля такога свінакомплексу? І хто нам дасць гарантыі, што на новым месцы гэта не паўторыцца?"

**Саламея ГРЫНЬ, Валожынскі раён.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# На добрыя справы ў "Логасе" сабралі больш за восем мільёнаў рублёў

**ВІЛЕЙКА. Ад 3 лістапада да 3 снежня ў гімназіі №1 "Логас" праходзіла дабрачынная акцыя "Дарога талерантнасці".**

Прымеркаваная яна была да Дня інваліда. У ёй прынялі ўдзел бацькі, вучні і настаўнікі гімназіі.

Падчас акцыі арганізавалі кніжную выставу "Без дабрыні і спагады няма чалавека", правялі акцыі "Візіт увагі", "Падарунак сябру". Наведалі вучняў-інвалідаў, якія вучацца ў гімназіі, а таксама трэцякласніцу **Крысціну Парэпку**, якая навучаецца дома. Перадалі грошы і падарункі ад вучняў.

Адбыліся рэйды шэфскай дапамогі інвалідам, якія маюць патрэбу ў дапамозе, і педагогам-пенсіянерам. Прайшлі класныя гадзіны ў форме гутаркі, "круглага стала", трэнінгу, інтэрактыўнай гульні, выхаваўчыя гутаркі. Дзеці паглядзелі і абмеркавалі відэафільмы з цыклу "Кожны мае права быць розным".

У кожным класе арганізавалі "дабрачынную скарбонку". У зборы грашовых сродкаў прынялі ўдзел сем'і вучняў ад 1 да 11 класа, увесь педагагічны калектыў гімназіі.

Агульная сума збору перавысіла восем з паловай мільёнаў рублёў. Ад іх больш за тры з паловай мільёны рублёў пералічылі на падтрымку сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў, на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы групы для дзяцей з цяжкімі парушэннямі развіцця раённага цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. На рахунак дзевяцікласніка СШ№3 Вілейкі **Георгія Чагавадзэ** пералічылі 625 тысяч рублёў.

Астатнія сродкі, амаль чатыры з паловай мільёны рублёў, перададуць пяці сем'ям вучняў гімназіі, дзе выхоўваюцца дзеці-інваліды. Таксама акажуць дапамогу двум былым педагогам-інвалідам гімназіі.

**Алена МАЧЭЛЬ, настаўніца вілейскай гімназіі №1 "Логас".**

РАСКЛАД

# Як будуць працаваць паліклінікі і транспарт на святы

**МАЛАДЗЕЧНА. Першага студзеня аўтобусы пачнуць працу а палове восьмай. У паліклініках – выхадны, па дапамогу можна будзе звярнуцца ў "хуткую".**

25-28 снежня, ад чацвярга да нядзелі, гарадскі транспарт працуе як у выхадныя дні.

31 снежня грамадскі транспарт працуе да дзесяці вечара

Міжгародні транспарт 25 снежня, у сераду, будзе працаваць па раскладзе суботы. 27 снежня, у суботу, – па графіку нядзелі.

Як расказала **Ала Аліжыч**, інжынер аддзела перавозак аўтапарка ў Маладзечне:

– Запланавана, што 31 снежня гарадскія аўтобусы будуць працаваць да дзесяці гадзін вечара. А першага студзеня гарадскі транспарт працуе ад паловы восьмай.

**Па дапамогу звяртайцеся ў "хуткую"**

**Іван Лужынскі**, намеснік галоўнага доктара па медыцынскім абслугоўванні насельніцтва цэнтральнай раённай бальніцы, адзначыў, што 20 снежня, у суботу, у паліклінах будзе поўны працоўны дзень.

25 снежня, у чацвер, – выхадны. 26 і 27 снежня, у пятніцу і суботу, – скарочаны працоўны дзень.

Працоўны дзень з другога студзеня, з пятніцы, пераносяць на 10 студзеня, на суботу. Першага студзеня ў паліклініках выхадны. Трэцяга студзеня – скарочаны дзень.

**Галіна СІНІЦА.**

ГРАМАДСТВА

# Паўтысячы свіней загінулі на ферме

**МАЛАДЗЕЧНА. Выпадак адбыўся на ААТ "Забалоцкі" ў Любанскім раёне.**

Пра гэта распавяла tut.by афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Па папярэднім заключэнні экспертаў, якія працавалі на месцы, прыкметаў віруса АЧС няма. Хутчэй за ўсё, у памяшканні адбыўся збой у вентыляцыйнай сістэме. Тэмпература павысілася звыш нормы, і 536 жывёл задыхнуліся.

Дзеянні начальніка комплексу і іншых службовых асоб расцэненыя следствам як службовая нядбайнасць.

# Эколагі падалі ў суд на кампанію "Вялес-Міт"

**МАЛАДЗЕЧНА. Грамадскае аб'яднанне "Экадом" падало іск у суд за адмову даць дакументы для экалагічнай экспертызы.**

17 лістапада "Экадом" накіраваў заяву аб намеры правесці грамадскую экалагічную экспертызу праектаў свінакомплексаў. Згодна з беларускім заканадаўствам, фірма-заказчык, "Вялес-Міт", павінна была цягам 20 рабочых дзён перадаць матэрыялы. Сярод іх ацэнка аб уздзеянні на наваколле, матэрыялы грамадскіх абмеркаванняў па гэтым пытанні, якія адбыліся 1 снежня.

– Аднак і да сёння кіраўніцтва "Вялес-Міт" не перадало нам ніводнага дакумента, – сказаў юрыст аб'яднання "Экадом" **Сяргей Магонаў**.

**Аддзел інфармацыі.**

1 снежня на грамадскім абмеркаванні па будаўніцтве двух свінакомплексаў на Маладзечаншчыне выступалі распрацоўшчыкі праекта ацэнкі ўздзеяння комплексаў на наваколле.

Зала патрабавала, каб яны назвалі свінаферму, пабудаваную па тэхналогіях, якія распрацоўшчыкі лічаць бясьпечнымі і сучаснымі.

Узгадалі ТАА "Забалоцкі" ў Любанскім раёне і прапанавалі праверыць, ці ёсць пах каля яго. Распрацоўшчыкі дадалі, што кампанія "Агрыка" пры праектаванні прымяняе тыя ж тэхналогіі, што ў таварыстве "БелДан" у Ляхавіцкім раёне.

**Настасся РОЎДА.**

**КАМЕНТАР УЛАДЫ**

Старшыня Мінскага аблвыканкама **Сямён Шапіра** не ведаў, што адзін са свінакомплексаў праектуецца паблізу ад Маладзечна.

– Ён даў каманду забараніць там будаўніцтва. Сказаў, што свінакомплекс павінны знаходзіцца не менш як у 10 кіламетрах ад горада, – праінфармавала svaboda.org прэс-сакратарка аблвыканкама **Галіна Трафіменка**.

НАШЫ ГРОШЫ

# 20 і 29 снежня пройдзе "Ноч скідак"

**Белкаапсаюз ладзіць яе ў абласных і раённых цэнтрах.**

У гэтыя дні рэжым працы на гандлёвых аб'ектах падаўжаць да дзвюх гадзін ночы. Пакупнікам прапануюць скідкі.

На нехарчовыя тавары скідкі будуць да 15%, на харчовыя – да 70%.

На некаторыя тавары скідкі будуць даходзіць да 40%. Для наведнікаў будуць арганізаваныя дэгустацыі кандытарскіх вырабаў, сокаў, безалкагольных напояў.

**Паводле "Нашай Нівы".**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Незаконна налічылі 20 мільёнаў зарплаты

**МЯДЗЕЛ. Паказчыкі прыпісвалі, а былы кіраўнік без падставы жыў у службовым доме і ездзіў на службовай машыне.**

Камітэт дзяржкантролю знайшоў парушэнні ў таварыстве "Мядзелаграсэрвіс".

Большасць знойдзеных недахопаў узнікла праз неэфектыўнае кіраванне. Сярод праблем: парушэнні ў вядзенні бухгалтарскага ўліку, працоўнага заканадаўства, скажэнне статыстыкі, недаатрыманне прадукцыі.

**Паказчыкі ў галіне раслінаводства сярод найгоршых у Мядзельскім раёне.**



gdb.rferl.org.

Дзеля выпраўлення сітуацыі на паперы, службовыя асобы вырашылі прыпісваць вынікі. Каб павысіць ураджайнасць, таварыства пераявало 230 гектараў аднагадовых культур, якія ідуць на кармавыя патрэбы, у лік збожжавых. Такім чынам, па паперах ураджайнасць атрымалася завышаная, 5,1 цэнтнера з гектара. Статыстычны паказчык далі са скажэннем.

Травяністых кармоў нарыхтавалі значна менш, чым летась. Праяўляючы лічаць, што для таварыства стаіць задача не атрымаць як мага больш прадукцыі, а хаця б выжыць.

Пры гэтым былое кіраўніцтва таварыства больш клапацілася пра вырашэнне асабістых праблем, адкладваючы пытанні вытворчасці на потым.

Напрыклад, былы дырэктар таварыства жыў у службовым доме, не маючы на гэта падстаў. І забываў плаціць за энергію. Запазычанасць сабралася на мільён рублёў.

**Ён жа выкарыстоўваў легкавую машыну, што прынесла 18 мільёнаў рублёў страт таварыству.**

Навучыўшыся ад кіраўніка, спецыялісты незаконна налічылі сабе больш за 20 мільёнаў рублёў зарплаты.

Матэрыялы праверкі перадалі ў праваахоўныя органы.

**Паводле паведамлення Маладзечанская міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

● СПАЖЫВЕЦ

## Не можаце заснуць і баліць страўнік – піце малако

*Заканчэнне. Пачатак у №50.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму з узростам малака трэба ўжываць менш. Чаму малако з мёдам дапамагае дзецям вылечыцца ад прастуды, а дарослым не рэкамендуюць ім лячыцца.**

Адказы на гэтыя пытанні мы шукалі ў доктара.

### Не любіце малако – налягайце на мяса і рыбу

Участковы доктар-тэрапеўт загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі №3 у Маладзечне **Жанна Кісель** патлумачыла, што ў малацэ ёсць карысныя элементы, якія абавязкова павінны быць у рацыёне.

– Калі арганізм не ўспрымае малако, варта замяніць яго іншымі малочнымі прадуктамі, – заўважае Жанна Кісель. – Калі ж і гэтыя малочныя прадукты чалавек не ўжывае, кальцый і дастатковую колькасць бялкоў можна ўзнаўляць такімі прадуктамі, як мяса, рыба, фасоля, гарох. Варта прымаць вітаміны з кальцыем.

Спецыяліст адзначае, што з узростам малака трэба менш. З гадамі атрафіруецца фермент, які адказвае за засваенне малака. У выніку можа быць дыярэя, уздуцце.

### Баліць страўнік – ужывайце малако

– Малако ахінае слізістую страўніка, – гаворыць спецыяліст. – Тады яму лепш перапрацоўваць ежу. Пры прастудзе маленькім дзецям даюць малако з мёдам, для іх гэта карысна, дапамагае хутчэй вылечыцца.

А вось дарослым не рэкамендуецца малако для лячэння. Пры прастудзе тэмпература цела павышаецца, таму малако можа проста закіснуць у страўніку.

Жанна Кісель рэкамендуе піць малако жанчынам у перыяд менапаўзы:

– У гэты час вымываецца кальцый з касцей Таму жанчынам, у якіх малако добра засвойваецца, можна ўжываць да паўлітра ў дзень.

### Казінае малако – для павышэння імунітэту

Людзям, які не могуць заснуць ці неспакойна спяць, Жанна Кісель рэкамендуе піць малако з мёдам перад сном. Але пры ўмове, што арганізм добра ўспрымае малако.

Доктар гаворыць, што казінае малако больш тлустае. Яго часта выкарыстоўваюць для лячэння прастуды ў дзяцей, для падтрымання імунітэту. Людзям больш сталага ўзросту варта пазбягаць тлустых прадуктаў.

### Ад малака не таўсцеюць

Існуе меркаванне, што людзі, якія часта п'юць малако, праз некаторы час набіраюць вагу. Аднак участковы доктар-тэрапеўт Жанна Кісель заспакоіла людзей.

– Пажадана піць не больш за паўлітра малака, – раіць доктар. – Тады вы дакладна не паправіцеся. Галоўнае рабіць перапынак паміж ужываннем малака і іншымі стравамі, каб яно засвоілася страўнікам.

Людзям, у якіх павышаны халестэрын, доктар рэкамендуе піць малако меншай тлустасці – да 1,5%. Здаровыя могуць піць і вялікай тлустасці ў 3,2%-3,5%.

**Галіна СІНІЦА.**

## Краму "Златка" зачынілі на пяць дзён

**МАЛАДЗЕЧНА. Супермаркет "Златка", што на Вялікім Гасцінцы, зачынілі па прадпісанні Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі да 18 снежня.**

Пра прычыны закрыцця "Рэгіянальнай газеце" паведаміла загадчыца аддзела гігіены харчавання Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Таццяна Кугара**.

– Крама зачыненая за невыкананне патрабаванняў СанПіНа (санітарна-эпідэміялагічныя правілы і нарматывы). У ёй прадаваліся тавары з прайшоўшым тэрмінам прыдатнасці. Не выконвалася таварнае суседства, выявілі прыклады антысанітарыі.

Гэта была пазапланавая праверка.

Сёлета яшчэ сямі гандлёвым прадпрыемствам горада былі вынесеныя прадпісанні. Некаторыя закрываліся на 1-2 санітарныя дні.

Супермаркет "Златка" першы, які зачынілі на пяць дзён.

**Наталля ТУР.**



Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 11.12 | 18.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 850,00 | **10 880,00** |
| Еўра | 13 440,00 | **13 590,00** |
| Злоты | 3 225,61 | **3 215,75** |
| Літ | 3 887,22 | **3 928,79** |
| Расійскі рубель | 200,50 | **163,00** |
| Грыўня | 694,62 | **682,77** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13313570 | **13590/13920** |
| Долар ЗША | 10810980 | **10900/11150** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.12 | 17.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **54950** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29800 | **29800** |
| Селядзец, 1 кг | 34500 | **34500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105000 | **108000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10500 | **10500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 11300 | **11900** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6000 | **6000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 3100 | **3300** |
| Морква, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Апельсіны, 1 кг | 15500 | **15500** |
| Мандарыны, 1 кг | 17500 | **16500** |
| Памідоры, 1 кг | 20000 | **23500** |
| Агуркі, 1 кг | 28800 | **27800** |
| Перац, 1 кг | 24000 | **28500** |
| Вінаград, 1 кг | 18500 | **20500** |
| Бананы, 1 кг | 12800 | **13900** |
| Хурма, 1 кг | 20500 | **20500** |
| Яблыкі, 1 кг | 8900 | **8900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 16000 | **16500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● КРЫМІНАЛ

# Вырашыў, што нешта ўсялілася, і забіў маці

**ВАЛОЖЫН. Мужчына лічыў, што ўзламаў базу спецслужбаў, якія ў помсту за ім сачылі і маніпулявалі.**

Трагічная гісторыя адбылася днём у аўторак, 9 снежня, пад Валожынам. Падрабязнасці распавяла старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**.

У дзяжурную часць міліцыі "хуткая дапамога" паведаміла пра смерць жыхаркі вёскі Каштаноўка, што прыкладна ў двух кіламетрах ад райцэнтра. На месца выехаў нарад міліцыі і фельчар. Спецыяліст убачыў колата-рэзаную рану на грудзях злева, крывападцёкі на целе. Кроў заўважылі ў доме.

Разам з жанчынай жыў сын, які і выклікаў "хуткую".

Калі ля загінулай працавалі спецыялісты, мужчына дзіўна сябе паводзіў:

– Спрабаваў уварвацца ў дом, – распавядае следчая. – Эксперты яшчэ не правялі агляд і думалі, што ён можа знішчыць доказы. Крыкам крычаў: "Госпадзі, ратуй і абарані! Кола замкнулася!"

Экспертыза паказала, што на правай скроні ў жанчыны сечаныя раны, а рана на грудзях дасягае сэрца. Гэты ўдар і стаў прычынай смерці.

У забойстве падазраюць яе сына. Ён амаль не п'е, яго паважаюць на рабоце і ў вёсцы. Працуе інжынерам кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі на заводзе.



Фота usiter.com.

Мужчына паказваў блізкім, што на маніторы бегаюць лічбы, як у кіно, і казаў, што гэта хакеры падбіраюць коды.

## Лічыў, што за ім сочаць спецслужбы

Следчая паведаміла, што некалькі месяцаў таму мужчына прынёс дадому парамантаваць сістэмны блок ад камп'ютара. Нібыта з ім размаўляў і нават вырашыў, што ўзламаў базу нейкай спецслужбы – ці то КДБ, ці то Інтэрпола.

Пасля ў інжынера развілася манія праследу. Лічыў, што за ім сочаць. За дзень да забойства маці, у якім падазраюць яго, сам выклікаў міліцыю. Ён прасіў абараніць яго ад тых, хто нібыта за ім сочыць.

– Паказваў блізкім, што на маніторы бегаюць лічбы, як у кіно, і казаў, што гэта хакеры падбіраюць коды. Ён гаворыць-гаворыць, а потым сам сабе: "А што ж я раблю?"

## Павярнуўся да маці, сказаў: "Бывай" і ўдарыў

На допыце падазраваны прызнаўся ў забойстве, але не мог патлумачыць, чаму яго здзейсніў. Казаў, што ў яго нешта ўсялілася і кіравала. Ён расказаў, што рамантаваў камп'ютар, павярнуўся да маці, сказаў: "Бывай" і ўдарыў табурэтам па галаве.

Жанчына тры гады была ляжачай праз хваробу, яе становіча характарызуюць.

Падазраваны жанаты, у яго двое дзяцей, якія вучацца ў ВНУ. Яго называюць гаспадарлівым: дом уладкоўваў сам.

Падазраванаму прызначылі стацыянарную комплексную псіхолага-псіхіятрычную экспертызу.

Крымінальную справу ўзбудзілі па артыкуле "Забойства заведама састарэлага". Магчымае пакаранне – ад 8 да 25 год пазбаўлення волі, пажыццёвае заключэнне ці смяротнае пакаранне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ВЫШУК

# Школьнік збег, краў, уцёк ад міліцыі, а вяртацца дадому было сорамна

**ВАЛОЖЫН. Хлопчык скраў арэхі, пасцельную бялізну, цвікі, інструменты, але нават не можа патлумачыць, чаму.**

Пра тое, як знайшлі хлопчыка, які згубіўся і заблытаўся, распавяла старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая.**

У пятніцу, 5 снежня, ён уцёк з дому. У суботу залез у адзін з дамоў, каб скрасці ежу. Разбіў акно – следчыя называюць гэта адметнасцю ва ўсіх крадзяжах. У доме знайшоў арэхі, з'еў іх. Верагодна, думаў уладкавацца сабе месца для начлегу, таму скраў падушкі, пасцельную бялізну.

Раптам вярнуліся гаспадары. Хлопчык вырашыў схавацца ў шафе. Гаспадары заходзяць, бачаць, што іх абакралі, выклікаюць міліцыю. Жанчына ўзялася правяраць, што скралі яшчэ. Зазірнула ў шафу і знайшла там падазраванага. Калі прыехалі міліцыянеры, адзін з іх толькі працягнуў руку ўзяць хлопчыка, як той вырваўся і збег.

Ладзіў будан у лесе, бо сорамна было вяртацца.

Шукалі хлопчыка да серады, 10 снежня.

У гэты ж час адбыліся тры крадзяжы ў вёсцы Бурнейкі. Паўсюль злодзей выбіваў шыбы, краў прадукты, будаўнічыя матэрыялы: цвікі, пілу. Усе гэтыя прылады ён цягнуў у лес, дзе складаў будан.

– Дамоў ён вяртацца не хацеў, таму што было сорамна, – тлумачыць следчая. – Хаця дома яго і даглядаюць, і любяць, гэта бачна.

Хлопчыка знайшоў участковы міліцыянер **Дзяніс Богдан.**

Ён заўважыў, што з работы вяртаецца мясцовы жыхар з заробкаў. Прапанаваў агледзець дом, бо ў вёсцы якраз былі крадзяжы. Слядоў крадзяжу не было, але міліцыянер заўважыў, што ў доме цёплы каларыфер. Пайшоў шукаць і знайшоў хлопчыка пад ложкам. Яго арыштавалі.

– Ён не разумее, што штурхае на гэтыя крадзяжы, – удакладняе следчая. – У доме ж усё ёсць.

Цяпер ён вучыцца у 9-м класе адной з валожынскіх школ. Жыве з працавітым бацькам і бабуляй – заслужаным педагогам. Іх характарызуюць як клапатлівых і акуратных. А вось маці пазбаўленая бацькоўскіх правоў і лёсам сына не цікавіцца.

Гэтай вясной хлопчыка ўжо лавілі на серы крадзяжоў. Ён краў мабільныя тэлефоны, прадукты, дробязі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ЗДАРЭННІ

## Падрабязнасці смерці мужчыны, якога пабіў 21-гадовы маладзечанец

**МАЛАДЗЕЧНА**. Раніцай пацярпелы быў яшчэ жывы.

Як распавёў старшы следчы Следчага камітэта **Юры Багушэвіч,** маладзён з гарадскога пасёлка Гарадзея жыў у доме сям'ейнай пары з Маладзечна па вуліцы Заслонава.

Сваякамі яны яму не прыходзяцца, але ўзялі да сябе пажыць. І па ўзросту падыходзяць у бацькі.

Вечарам 7 снежня да іх у госці завітаў 53-гадовы знаёмы. Разам адпачывалі і выпівалі. Пасля застолля госць захацеў застацца начаваць.

Але малады чалавек быў супраць. Ён пачаў яго збіваць рукамі, пасля схапіў драўляны брусок і яшчэ ўдарыў некалькі разоў.

Пасля выцягнуў на ганак і там пакінуў.

Раніцай гаспадар дома убачыў свайго прыяцеля на ганку. Той быў яшчэ ў прытомнасці. Гаспадар выклікаў "хуткую", якая не паспела прыехаць. Пацярпелы памёр.

## На пажары згарэла гаспадыня дома і яе сын

**МАЛАДЗЕЧНА.** 12 снежня ў тры гадзіны ночы выратавальнікам паведамілі пра пажар у вёсцы Паляны Лебедзеўскага сельсавета па вуліцы Зялёнай.

У доме жыла 71-гадовая жанчына з 48-гадовым сынам. У чатыры гадзіны раніцы іх целы знайшлі ў трох метрах ад выхаду, каля печкі.

Пра здарэнне паведаміла **Ксенія Таратута**, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.

**Галіна СІНІЦА.**

## У Вілейцы знайшлі, хто скраў долары

**ВІЛЕЙКА.** Яшчэ ўлетку з дома ў Вілейцы праз незачыненыя дзверы скралі 850 долараў ЗША. Але гаспадыня звярнулася ў міліцыю толькі 10 снежня.

Праверылі 25-гадовага непрацуючага жыхара Вілейскага раёна, якога падазравалі ў крадзяжы. Пры праверцы падазрэнні пацвердзіліся.

Мужчыну затрымалі. Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж, паведаміў намеснік начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Грошы мужчына паспеў прагуляць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гвалт у сям'і – гэта не норма

**МАЛАДЗЕЧНА**. У верасні брат пасля сумеснага распівання спіртных напояў ударыў сястру бутэлькай па галаве чатыры разы.

Гэта не адзіны прыклад сямейнага гвалту. Вясной гэтага года сын, пасварыўшыся з бацькам, ударыў яго нажом у грудзі.

Усяго за 2014 год на тэрыторыі Маладзечанскага раёна зарэгістравана восем злачынстваў, якія адбыліся ў сем'ях.

Як атрымоўваецца так, што дамашнія кухні становяцца арэнай жорсткіх сутычак?

Праведзены аналіз паказвае, што галоўнай прычынай забойстваў застаецца злоўжыванне спіртнымі напоямі. Акрамя гэтага, патэнцыйныя забойцы, як правіла, нідзе не працуюць.

Штодзень у аператыўна-дзяжурную службу паступаюць шматлікія выклікі на сямейныя сваркі. Гэта толькі нязначная верхавіна айсберга.

Колькі людзей баяцца звяртацца па дапамогу, засцерагаючыся ад яшчэ большай агрэсіі?

Самае страшнае ў такіх сямейных сварках – гэта лёс дзяцей. Яны змалку чуюць і бачаць сваркі і злосць, самі цярпяць крыўдныя словы ці нават пабоі.

Маўчанне – гэта не выйсце з сітуацыі. Перакanaўшыся ў беспакаранасці, дэбашыры становяцца больш нахабнымі.

Калі вам стала вядома пра тое, што ў сям'і ўзнікаюць канфліктныя сітуацыі, члены сям'і ўжываюць спіртныя напоі, дзеці знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы, Маладзечанскі РАУС просіць паведаміць гэту інфармацыю па тэлефонах "гарачай лініі":

**102, 77-16-56** (кругласутачна), **77-14-88, 77-44-11** (у працоўныя дні ад 9:00 да 18:00).

**Паводле інфармацыі аддзела унутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама.**

● МАХЛЯРСТВА

# 20-гадовы махляр прасіў купіць мабільнікі ў растэрміноўку

## Пацярпелых больш за сотню

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзён ад лістапада 2013 да красавіка 2014 года пад рознымі падставамі схіляў грамадзян да набыцця мабільных тэлефонаў у растэрміноўку.**

Аднак выконваць абавязацельствы па выплаце штомесячных плацяжоў не збіраўся.

– Схемы ашуканскіх дзеянняў былі розныя, – расказала нашаму выданню афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – У адных выпадках маладзечанец абяцаў сам ажыццяўляць выплаты па растэрміноўцы, у іншых казаў, нібыта можа выдаліць інфармацыю аб даўжніках з базы арганізацыі. Грамадзяне ад 18 да 25 гадоў паддаліся на перакананні або за пэўную матэрыяльную ўзнагароду афармлялі растэрміноўку на куплю. Тэлефоны перадавалі хлопцу. Пасля хлопец іх перапрадаваў, а грошы марнаваў на асабістыя патрэбы.

Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта завяршыў расследаванне па крымінальнай справе. Жыхара Маладзечна абвінавачваюць у махлярстве ў асабліва буйным памеры. Пацярпелымі па крымінальнай справе прызналі 104 чалавекі.

У выніку супрацьпраўных дзеянняў прычыненая шкода на суму каля 635 мільёнаў рублёў. Палова з яе ў ходзе следства кампенсавана.

Частка мабільных тэлефонаў знойдзеная і канфіскаваная. Хлопец заключаны пад варту.

Матэрыялы крымінальнай справы склалі 17 тамоў. Іх перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аддзел інфармацыі.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





Фота Наталлі ТУР.

Пад кіраўніцтвам Каці Галаўко звычайная паперка ператвараецца ў анёла. Андрэйка з захапленнем сочыць за працэсам.

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Папяровыя анёлы нясуць шчасце дзецям

**МАЛАДЗЕЧНА. Як звычайныя папяровыя цацкі ператварыць у чароўныя і нашаптаць ім сваё навагоднее жаданне, ведаюць у сацыяльна-педагагічным цэнтры.**

11 снежня ў прытулак завіталі выхаванцы аб'яднання па інтарэсах "Народная крыніца", што працуе ў цэнтры творчасці дзяцей "Маладзік".

Пяцёра выхаванак студыі **Дар'я Станкевіч, Каця Галаўко, Каця Рудая, Аліна Жогаль і Ганна Каханоўская** разам з кіраўнікам **Вольгай Маславай** завіталі ў госці да дзяцей не з пустымі рукамі. Акрамя пачастунку прынеслі з сабой паперу, нажніцы і клей.

– Я прапанавала сваім дзяўчатам схадзіць да дзетак, – кажа Вольга Маслава. – Дзяўчаты адразу пагадзіліся. Ім самім цікава не проста нешта зрабіць сваімі рукамі, а і навучыць іншых рабіць гэта.

Каб пазнаёміць дзетак з папяровай творчасцю, выбралі фігуру анёла.

– Вядома, гэты выбар быў невыпадковы, – працягвае Вольга Юр'еўна. – Анёл – гэта калядны сімвал дабрыні і веры ў лепшае. Анёл – гэта абярэг.

Над стварэннем свайго навагодняга дзіва працавалі і 6-гадовая **Віка**, і 5-гадовая таксама **Віка**, і нават **Андрэйка**, якому толькі нядаўна споўнілася 3 гады і 9 месяцаў.

Маленькія Андрэйкавы ручкі ўпэўнена трымаюць нажніцы пад кіраўніцтвам Каці Галаўко:

– Мне не прывыкаць дапамагаць і тлумачыць малодшым. У мяне самой ёсць брацік, якому няма яшчэ і трох гадоў. А з Андрэйкам працаваць лёгка. Ён вельмі паслухмяны.

Андрэй працуе над сваім анёлам. Увесь час нешта каментуе і захапляецца тым, што ў яго атрымоўваецца!

– Дзіўна, але калі Андрэй прыйшоў да нас у ліпені гэтага года, – кажа намесніца дырэктара сацыяльна-педагагічнага цэнтра Маладзечанскага раёна **Таццяна Шчэбет**, – ён не гаварыў ні слова. Не, гаварыць ён умеў, але ўвесь час маўчаў. А цяпер балбоча толькі так.

Андрэй у прытулку знаходзіцца разам са старэйшымі сястрычкамі: Светай і Вікай.

– Дзеці тут амаль не гавораць пра свaіх бацькоў. Хочацца верыць, што нашых дзетак усё ж такі забяруць дадому на навагоднія святы. А пакуль мы рыхтуемся да святаў разам.

### У лістах да Дзеда Мароза дзеці нічога завоблачнага не просяць

Напярэдадні Новага года гасцей у цэнтры бывае шмат. Многія нясуць цукеркі і падарункі. Акрамя таго, дзеткі прымаюць удзел у навагодняй акцыі. Разам з выхавальнікамі кожнае дзіця намалявала шышку, да яе прыклеіла свой фотаздымак, а на адваротным баку напісала сваю просьбу да Дзеда Мароза.

Усе жаданні дзяцей абсалютна рэальныя. Ніхто не папрасіў ні планшэта, ні мабільнага тэлефона. У асноўным, просяць цацкі. Віка папрасіла набор дзіцячай касметыкі.

**– Віка, нашто табе касметыка, ты і так прыгожая,** – кажу Вікторыі.

– Каб быць яшчэ прыгажэйшай!

А між тым, праца над анёлам паціху заканчваецца. Застаюцца апошнія штрыхі.

Клей перавернуты на стале, абрэзкі паперкі паўсюль, раскіданыя алоўкі, але ўсе задаволеныя. Анёлы атрымаліся прыгожымі.

– А мне дзяўчынка сказала, што калі нашаптаць жаданне анёлу, яно споўніцца, – прызнаецца мне выхаванец прытулку **Коля**. – Свайго анёла я павешу над ложкам.

### Начальнік РАУС папрасіў шышку з жаданнем

Акцыя, пра якую гаварыла Таццяна Шчэбет, сёлета мае назву "Падары радасць дзецям".

Яна ўзяла старт 13 снежня ў гандлёвым цэнтры "Спадарожнік".

У акцыі прымаюць удзел дзеткі з сацыяльна-педагагічнага цэнтра, цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, а таксама Радашкавіцкай школы-інтэрната.

– У першы дзень акцыі, – распавядае вядучы спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Аксана Курчына**, – разабралі ўсе шышкі, што рабілі дзеткі з сацыяльна-педагагічнага цэнтра.

У гэтыя выхадныя, 20-21 снежня, ёлка працягне працаваць. Прыйсці ў гандлёвы цэнтр можна ад 10 да 15 гадзін і падарыць радасць дзіцяці. Казачныя персанажы, што працуюць тут, распавядуць падрабязна, што трэба зрабіць, каб ваш падарунак знайшоў свайго ўладальніка.

### – Ці актыўна маладзечанцы прымаюць удзел у акцыі?

– Пра гэта і сведчыць тое, што ў першы дзень разабралі шмат шарыкаў і шышак, што рабілі дзеці. Акрамя таго, у акцыі актыўна прымаюць удзел і арганізацыі горада: "Энерганагляд", ДАІ, РАУС.

– А начальнік міліцыі **Валянцін Асіповіч** папрасіў асабіста яму пакінуць шышку ці шарык, каб самому падарыць казку камусьці з дзяцей, – падсумавала Аксана Курчына.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

● АДУКАЦЫЯ

## Вілейскі каледж атрымаў новы статус

**ВІЛЕЙКА. Вілейскі дзяржаўны каледж. Так ад 15 снежня называецца колішні Вілейскі прафесійна-тэхнічны каледж.**

І гэта не фармальная змена шыльды, даводзіць дырэктар установы **Ігар Кіцікаў**:

– Цяпер выпускнікі 9-х і 11-х класаў могуць атрымаць адразу сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесію тэхніка-электрыка і аўтамеханіка. Дагэтуль у нас рыхтавалі такіх спецыялістаў на базе прафтэхадукацыі. Гэта значыць, адразу ахвотныя павінны былі адвучыцца на пэўных спецыяльнасцях у каледжы і толькі потым авалодваць прафесіямі тэхніка-электрыка і аўтамеханіка.

Таму раней выпускнікі з'язджалі вучыцца на гэтыя спецыяльнасці ў Маладзечна і Мінск. Па заканчэнні вучобы большасць, як правіла, на малую радзіму не вярталася.

– Арганізацыі і гаспадаркі Вілейшчыны і Мядзельшчыны адчуваюць дэфіцыт тэхнікаў-механікаў і тэхнікаў-электрыкаў. Мы закрыем гэту патрэбнасць з атрыманнем новага статуса. Ёсць планы па адкрыцці іншых спецыяльнасцяў, але пакуль гэта сакрэт, – захоўвае таямніцу Ігар Кіцікаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АКЦЫІ

## У дапамогу Сашы з Нарачы заззяе "Калядная зорка Максіма Багдановіча"

**МІНСК, МЯДЗЕЛ. Святочнае мерапрыемства "Калядная зорка Максіма Багдановіча" адбудзецца 18, 19 і 20 снежня ў Мінску. Пройдзе яно ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў рамках дабрачыннай акцыі "3D: Дзеці Робяць Дабро".**

У гасцей будзе магчымасць зрабіць навагоднюю цацку сваімі рукамі, распісаць гіпсавую статуэтку, прыняць удзел у калядных гульнях, паглядзець спектакль лялечнага тэатра "Батлейка" і зрабіць ляльку для батлейкі, паведамляе rebenok.by.

**Свята будзе доўжыцца ад 12.00 да 19.00.**

Уваход на мерапрыемства: квітанцыя аб пераводзе грошай на лячэнне **Сашы Якушэнкі** (любая сума на ваша меркаванне).

Чатырохгадовая Саша з курортнага пасёлка Нарач (Купа) ад трох месяцаў ад нараджэння змагаецца з хваробамі. "РГ" пісала пра дзяўчынку і як ёй можна дапамагчы – чытайце на нашым сайце rh.by.

**Аддзел інфармацыі.**

ЛЕСТНИЦЫ, ДВЕРИ
садово-дачная МЕБЕЛЬ
из массива дерева
ВЫЕЗД МАСТЕРА БЕСПЛАТНО
Доставка и установка по договоренности
Удобные условия оплаты ИП Артименя А.Н. УНП 101262621
Тел./факс 8 01772 54 238
Velcom 8 044 799 36 08
8 029 660 82 13
МТС 8 029 875 47 67

Минскому вагонному участку Белорусской железной дороги требуются:
ПОВАРА (срочно)
МОЙЩИКИ посуды (срочно)
ЭКОНОМИСТ в сфере общественного питания
РАБОЧИЙ по земельному строительству
МАЛЯР • ТРАКТОРИСТ
ВОДИТЕЛЬ погрузчика Амкодор-211
ЭЛЕКТРОГАЗОСВАРЩИК
РАДИОМЕХАНИК • УБОРЩИКИ
ЭКИПИРОВЩИК топлива
Проезд от места жительства к месту работы по ж/д бесплатно
По вопросам собеседования обращаться:
г. Минск, ул. Вокзальная, 13, отдел кадров
Телефоны: 225-50-75, 225-32-26
с 8.00 до 17.00, обед с 12.00 до 13.00
При себе иметь паспорт, трудовую книжку или копию
УНП 100016951



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ПА КРАІНАХ І КАНТЫНЕНТАХ З ЛЫЖКАЙ

# Як суп з цыбулі стаў вясельным

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговая вандроўка "З лыжкай па кантынентах" занесла ўдзельнікаў мерапрыемства, якое адбылося ў бібліятэцы "Верасок" 16 снежня, у Францыю.**



Фота Наталлі ТУР.

Канстанцін Кісялеўскі абяцае: салата ў яго выкананні будзе "пальчыкі абліжаш".

Туды, дзе больш за 500 гатункаў сыру, дзе на вяселлях ядуць суп з цыбулі і дзе раніца пачынаецца з… сімвала перамогі над туркамі.

Калі спытаць любога чалавека пра самую папулярную французскую страву, большасць, напэўна, скажа, што гэта жабіныя лапкі.

– Жабіныя лапкі – гэта далікатэс. І пакаштаваць іх можна далёка не ў кожным рэстаране, – пачалі экскурсію па французскай кухні супрацоўніцы аддзела замежнай літаратуры цэнтральнай бібліятэкі **Таццяна Летунова** і **Ларыса Берташ**.

Ахапіць усё меню французскай кухні ў адным артыкуле задача невыканальная, але спыніцца на самых цікавых старонках яе гісторыі мы паспрабуем.

### Французы на вяселлі ядуць суп

Французы ў прыгатаванні ежы кіруюцца прынцыпам эканоміі: нічога не павінна выкідвацца ў смецце. Таму, калі вас запрасілі на абед, будзьце гатовыя да таго, што на першае вам пададуць суп, а на другое – мяса, якое варылася ў гэтым супе. Ніякай празмернасці. Гэта вам не беларусы, што падчас вячэры прапануюць такое меню, ад страў з якога стол гатоў праламацца!

"Фішка" французскай кухні – суп з цыбулі. А вясельным яго называюць таму, што гэты суп абавязкова ўваходзіць у вясельнае меню. Яго падаюць напрыканцы ўрачыстасцяў. Справа ў тым, што суп з цыбулі працвярэжвае. І ноччу, пасля банкета, гэты суп падорыць лёгкасць і пазбавіць ад галаўнога болю назаўтра.

### Падаць сімвал Асманскай імперыі на сняданак!

З паходжаннем круасанаў, улюбёнага сняданка французаў, звязаная адна цікавая гісторыя.

Кажуць, французы пазычылі гэты рэцэпт у аўстрыйцаў. А самі французы называюць свой ласунак венскай выпечкай. А легенда кажа, што круасан прыдумаў нейкі пекар, які жыў у XVII стагоддзі ў Вене.

Круасан, згодна з легендай, стаў мучным сімвалам цудоўнага вызвалення Вены ад турэцкай арміі. Хітрыя асманы, якія акружылі сталіцу, вырашылі прakapаць ў горад лаз, але да іх няшчасця на шляху апынулася пякарня аднаго вельмі пільнага булачніка. Пачуўшы аднекуль знізу шоргат, ён адразу пабег да ваенных.

Турэцкі план сарваўся, а булачнік ва ўзнагароду атрымаў права пячы булачкі ў выглядзе паўмесяца (успомніце турэцкі сцяг). Французы ж узялі рэцэпт булачак сабе на ўзбраенне і далі ім назву круасан ( літаральна перакладаецца – "булка, якая расце").

### Архітэктары хаваюць свае памылкі пад плюшчам, дактары – пад зямлёй, а повары – пад маянэзам

Пры дапамозе аднаго толькі соусу вынаходлівыя французы адну страву могуць ператварыць у шэраг іншых, непадобных і смачных па-свойму.

Дзякуючы французам, мы атрымалі маянэз, без якога не абыходзіцца амаль ні адна салата на нашым стале. Слова "маянэз" звязанае з назвай горада Маён – сталіцай іспанскага вострава Менорка. Маён быў заваяваны герцагам Рышэльe.

Брытанцы асадзілі гэты горад. У французаў заканчваліся запасы харчавання, за выключэннем яек і аліўкавага алею. З гэтых прадуктаў кухары рыхтавалі яечню і амлеты, якія ўжо надакучылі французскім афіцэрам. Герцаг Рышэльe загадаў свайму кухару прыгатаваць якую-небудзь новую страву. Знаходлівы кухар узбіў яйкі з маслам і прыправіў сумесь соллю і спецыямі. Гэты соус назвалі "маянэзам", у гонар горада Маён.

### "Сэлфі з салатай у інстаграм запілі"

За тэорыяй і гісторыяй французскай кухні варта ўспомніць пра тое, што мерапрыемства усё ж мела назву: "Па краінах і кантынентах з лыжкай".

Узяцца за лыжку ў гэты дзень запрасілі навучэнцаў групы 205 гандлёва-эканамічнага каледжа. Хлопцы, а толькі яны былі ўдзельнікамі кулінарнага свята, аказалася, цікавяцца не толькі сістэмным праграмаваннем, спецыяльнасцю, на якую вучацца, але і кухняй.

**Канстанцін Кісялеўскі** і **Арцём Міхаленка** сваімі рукамі паспрабавалі зрабіць сапраўдную французскую салату:

– Лепшыя повары – гэта, вядома, мужчыны. – кажа Канстанцін. – І хлопец павінны умець прыгатаваць не толькі яечню, але і нешта такое, дзе больш за два інгрэдыенты.

Пакуль хлопцы гатавалі, іх сябры і аднагрупнікі жартавалі:

– Во, цяпер з сабой на прыроду будзем Кісялеўскага вазіць, гатаваць ён умее. Будзе салаты па дарозе стругаць.

– Арцём, ты ж не забудзься салацік сфоткаць і ў інтэрнэт выкласці. Я табе падабайку пастаўлю.

Завяршылася мерапрыемства чаяваннем з традыцыйным французскім дэсертам – эклерам. У гэты час арганізатары зладзілі віктарыну на веданне французскай кухні.

– Як называецца самая папулярная французская гарчыца?

– Піжонская! – адказаў **Дзмітры Казакевіч**.

І праўда, піжонская гарчыца гучыць куды смачней, чым дыжонская.

А рэцэпт дыжонскай гарчыцы і іншых страў можна паглядзець на нашым сайце

Rh.by

**Наталля ТУР.**



Фота vk.com/cinemaclubspace26

Так будзе выглядаць кінаклуб у Смаргоні пасля завяршэння рэканструкцыі.

КІНО

# Былы кінатэатр стане кінаклубам

**СМАРГОНЬ. Заканчваюцца працы па рэканструкцыі. Адкрыццё пройдзе напярэдадні навагодніх святаў, 26 снежня.**

Цяпер арганізатары праз суполку ў сацыяльных сетках высвятляюць у смаргонцаў, якія тэматычныя вечарыны і фільмы яны чакаюць.

– Мы робім кінаклуб па еўрапейскіх мерках, – кажа прадпрымальнік **Уладзімір Бацько**. – Ідэя спалучэння кіназалы і клуба для Беларусі сапраўды пакуль новая. Я бачыў такія ў Германіі. Гэта функцыянальна і прыбыткова.

Як адзначае Уладзімір Бацько, усё абсталяванне: гукавое, светлавое, кінаабсталяванне – сучаснае. Кіназала разлічаная прыкладна на 70 наведнікаў. Клуб – на 300.

**Працы па рэканструкцыі пачаліся ў жніўні. Каляровай гамай кінаклуба абралі чорна-белую з чырвоным акцэнтам.**

Ужо даўно прадпрымальнік загарэўся ідэяй зрабіць для смаргонцаў такое месца. Аднак давялося чакаць, пакуль улады дадуць згоду.

### Райвыканкам: аддалі пры ўмове захавання кіно

Бюджэту раёна ўзнавіць кінатэатр было складана. І як распавёў начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама **Аляксей Апановіч**, вырашылі перадаць яго таму, хто гатовы ўкласці сюды грошы.

Аднак пры ўмове, што сам накірунак кінатэатра застанецца. Гэта значыць, месца не можа ператварыцца проста ў клуб нават тады, калі ахвотных глядзець тут фільмы будзе няшмат.

А ўвогуле, на думку Аляксея Апановіча, у Смаргоні моладзі ёсць дзе адпачыць: запрашаюць зорак ладзіць канцэрты, хапае месцаў, дзе можна спортам пазаймацца. Адзінае, можа, не так шмат кавярняў ці тых жа клубаў.

**Раней прадпрымальнік Уладзімір Бацько адрэканструяваў у Смаргоні рэстаран.**

Як ён зазначыў, цяпер ён не саступае па дызайне і сталічным.

**Настасся РОЎДА.**

КУЛЬТУРА

# Вечарына памяці Сіліванoвіча пройдзе ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА.** У зале выстаў краязнаўчага музея 20 снежня адбудзецца вечарына памяці мастака, акадэміка Імператарскай акадэміі мастацтваў Нікадзіма Сілівановіча.

У межах яе прэзентуюць выставу аб жыцці і творчасці вядомага ўраджэнца Вілейшчыны. Прысвечаная вечарына 180-годдзю з яго дня нараджэння.

Пачнецца яна а 17 гадзіне, раскажа навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Магазин "Мир одежды" – СЭКОНД**
**г.Молодечно, ул.Строителей, 15–а**
*(вход со стороны бара "Парадиз")*
Завоз нового товара,
с 24 по 31 декабря
распродажа товара СО СКИДКАМИ
**от 15% до 50%**
ЧП «ВасТон», УНП 690620812



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020






Інфаграфіка Алеся ВЫСОЦКАГА

Жыццёвы шлях Нікадзіма Сілівановіча на лініі часу.

● АСОБЫ

# Нікадзім Сілівановіч: “Што пакідаю, вырашайце самі...”

## Ураджэнец Вілейшчыны прайшоў шлях ад пастушка да мазаіста Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу

*Працяг. Пачатак у №50.*

**ВІЛЕЙКА. Напярэдадні 180-й гадавіны ад нараджэння знаёмім з жыццёвым і творчым шляхам жывапісца акадэміка Імператарскай акадэміі мастацтваў Нікадзіма Сілівановіча.**

Без уліку кошту матэрыялаў праца абышлася казне амаль у 22 тысячы рублёў (велізарная сума па тых часах!). Скончылі 14 сакавіка 1885 года. Яе адзначылі на шматлікіх выставах – як у Расіі, так і за мяжой.

У Ісакіеўскім саборы ёсць яшчэ адна мазаіка, у стварэнні якой Нікадзім браў удзел. У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (Санкт-Пецярбург) знайшоў “Справу аб выкананні вобраза Нясенне Хрыста ў атыку Ісакіеўскага сабора ад жніўня 1873 года да 14 сакавіка 1885 г.”. З дакумента зразумела, што над мазаікай працавалі некалькі мастакоў-мазаістаў. Сілівановіч жа прыступіў да працы ў лістападзе 1881 года. Выканаў у гэтай мазаіцы зямлю, ззянне над галавой Хрыста, крыж і іншае.

Для Ісакіеўскага сабора мастак стварыў і асобныя часці іншых мазаік.

### За выдатнае пазнанне ў мазаічным мастацтве стаў акадэмікам

У 1875 годзе для царквы Св. Арханёла Міхаіла і Св. Яна Хрысціцеля ў горадзе Eзнасе (Літва) напісаў копію з працы італьянскага мастака **Гвіда Рэні**.

7 жніўня 1876 года нарадзіўся чацверты сын – Станіслаў. А 4 лістапада Імператарская акадэмія мастацтваў за выдатнае пазнанне ў мазаічным мастацтве прызнала Сілівановіча сваім акадэмікам і прысвоіла чын дзявятага класа. У тым жа годзе ў Філадэльфіі з поспехам была выстаўленая ягоная карціна “Асуджаныя”.

Ад 1877 да 1884 Сілівановіч стварыў некалькі работ для царквы ў Eзнасе, а ў 1894 годзе сумесна з З. Стэфанскісам напісаў для алтара “Св. Марка”.

### Збудаваў дом у Бірштане

Жывучы і працуючы ў Пецярбургу, Нікадзім падтрымліваў сувязі з Літвой і прыязджаў у горад Бірштан (цяпер – Бірштонас), каб праводзіць летні адпачынак з сям'ёй. Падчас яго Нікадзім зараджаўся творчай энергіяй, выношваў новыя ідэі. Зробленыя на шпацырах эскізы станавіліся асновай будучых карцін. Такіх, якія былі выстаўленыя ў 1890 годзе на выставе Пецярбургскай акадэміі мастацтваў – палотны “Сябры” і “Дзеці гуляюць у двары”.

Падчас адной з прагулак у Бірштанах нарадзілася ідэя “Аўтапартрэта ў саламяным брылі”.

У канцы 1870-х пагоршала здароўе жонкі Сілівановіча. У 1880 годзе мастак пачаў будаваць у Бірштанах ля падножжа гары Вітаўта драўляны дом.

12 красавіка 1881 года Нікадзіму прысвоілі кавалерскі ордэн Св. Станіслава трэцяй ступені. У 1883 годзе ў Санкт-Пецярбургу для галоўнага алтара касцёла ў Нямаюнаі ён напісаў абраз “Святыя апосталы Пётр і Павел”.

Ад 1883 да 1885 сумесна з Рэйнгардам ён валодаў фотаатэлье. Часта прыязджаў у Бірштаны фатаграфаваць.

12 верасня 1885 года Нікадзіма Сілівановіча прадставілі да звання старшага мастака-мазаіста.

### Старэйшы сын пайшоў па слядах бацькі

У гэты час ад цяжкай хваробы памерла жонка Нікадзіма. Засталіся чацвёра сыноў. Старэйшы, Стэфан, пайшоў па слядах бацькі і 9 чэрвеня 1886 года паступіў вольнаслухачом у аддзел жывапісу Імператарскай акадэміі мастацтваў. Скончыў яе 18 сакавіка 1889 года. А ў 1896 годзе накіраваўся ў вандроўку па Расіі для заняткаў жывапісам і фотаздымкамі.

Казімір скончыў медыцынскі факультэт і стаў доктарам. Станіслаў атрымаў спецыяльнасць хіміка. Іосіф, у якога была паралізаваная рука, атрымаў агульную адукацыю і займаўся садаводствам, даглядаў за домам у Бірштанах.

У 1889 годзе Нікадзім у стылі традыцыйнай іканаграфіі напісаў “Св. Францыска Асізскага” для Пунянскай царквы.

У 1890-м на выставе пецярбургскай Акадэміі мастацтваў выставілі палатно “Сябры”. Праз год ён напісаў карціну “Літоўка з Eзнаса ў святочнай вопратцы”.

У 1892 ён напісаў яшчэ адну работу для Нямаюнскай царквы “Хрыстос і Св. Марыя Магдалена”. Увага мастака да гэтай царквы невыпадковая. Вядома, што мастак увазходзіў у камітэт па яе будаўніцтве.

У 1893-м для Стаклішскай царквы напісаў карціну “Прасвятая Дзева Марыя Разарыя”, а ад 1885 да 1895 – “Св. Францыск Асізскі”.

2 красавіка 1895 года атрымаў кавалерскі ордэн Св. Ганны трэцяй ступені.

Разам з Кудрыным Сілівановіч атрымаў заказы на выкананне мазаічных абразоў Св. Аляксандра Неўскага і Уваскрашэння Хрыстова для храма Спас на Крыві, Санкт-Пецярбург. Заказ на мазаікі адлічваецца ад 1 ліпеня 1895. Мазаічныя абразы былі скончаныя ў 1901 годзе.

### Атрымаў самую высокую пенсію сярод мазаістаў

Ад канца лістапада 1898 года акадэмік мазаікі, тытулярны саветнік Нікадзім Сілівановіч праз хваробу вачэй і немалады ўзрост не мог працягваць мазаічныя работы. У сувязі з гэтым звярнуўся з прашэннем аб звальненні яго з ліку мастакоў-мазаістаў. Ён праслужыў у акадэміі 32 гады 2 месяцы і 21 дзень і атрымаў самую высокую пенсію сярод такіх мастакоў – 1468 рублёў 20 капеек у год.

У 1899 ён упершыню ўдзельнічаў у мастацкай выставе ў Вільні, на якой прадставіў два партрэты і тры карціны бытавога жанру. А ў 1901 пераехаў у Бірштаны на сталае жыхарства ў пабудаваны дом. У ім жыў і займаўся гаспадаркай яго сын Іосіф з жонкай Соф'яй. Дзякуючы пенсіі, мастак заснаваў невялікую майстэрню пад шкляным дахам, запрасіў сваю сястру Урушулю для дапамогі па ўтрыманні дома.

22 сакавіка 1904 ён адправіўся ў падарожжа па Расіі для мастацкай працы і фатаграфавання. У 1909 годзе для Віленскай кафедры напісаў 14 сцэн Крыжовага шляху Хрыста. Праз год – абраз Св. Апостала Юды Фадзея для касцёла ў Бірштанах, які будаваўся.

У 1911 годзе Сілівановіч атрымаў спадчыну. Дапамогу аказаў і пляменнік жонкі Пелагеі, езнаскі памешчык **Ляонас Квінта**. Мастак дадаў свае грошы і купіў сыну Іосіфу будынак былой конна-паштовай станцыі ў Прэнаі, а таксама зямлю побач.

У 1912 годзе ён напісаў партрэт святара **Ёнаса Карвяліса**. Святар кіраваў будаўніцтвам каменнай царквы ў Бірштанах.

### “Быў надта сціплы і ветлівы”

Жыхарка Бірштанаў Й. Жэмайце расказвала пра Сілівановіча:

> **“Ён быў невялікага росту, ужо сівы, заўсёды чыста і акуратна апрануты. Надта сціплы і ветлівы. Жыў эканомна, часам, каб разнастаіць будні, ладзіў святы: паездкі са сваякамі на паляванне, прагулкі ў наваколлі Нёмана”.**

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Нікадзім пакінуў Прэнай і пераехаў на радзіму. Пляменніца мастака **Юзэфа Курдзэка** (Сілівановіч), якая жыла ў Цынцавічах, расказвала: “Да нас часта заязджаў мастак з Пецярбурга, жыў працяглы час у нашым доме”.

**Віталь КУРДЗЭКА,**
**Санкт-Пецярбург.**

● КАЛЯНДАР

**20 снежня.** 1910 год. Нарадзіўся Вітаўт Тумаш (в. Спягліца, цяпер Вілейскі раён), грамадскі дзеяч, медык, скарыназнавец, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. У Першую сусветную вайну сям'я была ў бежанцах у Літве. Там Вітаўт пайшоў у школу, што дазволіла яму добра ведаць літоўскую мову. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Медыцынскую практыку адбываў на Валыні, дзе і застала Другая сусветная вайна. Не хочучы патрапіць да Саветаў, на ровары з'ехаў на Захад. Але праз невялікі час вярнуўся. Пад пагрозаю арышту вымушаны з ліпеня да лістапада 1941 года працаваць бурмістрам Мінска. Вызначыўся на гэтай пасадзе тым, што, апрача пашырэння нацыянальнага жыцця, рашучымі дзеяннямі спыніў эпідэмію грыпу па Мінску. Жыў у Германіі, ЗША, дзе заснаваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва і стаў яго кіраўніком. Адзін з выдатных даследчыкаў і заснавальнікаў скарыназнаўства. Рэдагаваў беларускія выданні. Праз яго рукі прайшлі ўсе заходнебеларускія паэтычныя зборнікі Максіма Танка, рэдагаваў кнігу Ларысы Геніюш “Ад родных ніў”.

***

**21 снежня.** 1796 год. Нарадзіўся Тамаш Зан (в. Мясата, цяпер Маладзечанскі раён), удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнавец, польскі літаратар.

***

**1981 год.** Памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, спявак, педагог, дзеяч на эміграцыі. Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе (Чэхія).

***

**22 снежня.** 2001 год. Памёр Уладзіслаў Чарняўскі, каталіцкі святар, перакладчык Бібліі і літургічных тэкстаў на беларускую мову.

***

**25 снежня.** Каляды каталіцкія (Божае нараджэнне).

***

**1844 год.** 170 гадоў з дня смерці Адама Храптовіча, асветніка, удзельніка паўстання 1794 года, мецэната.

***

**1991 год.** Міхаіл Гарбачоў пакінуў пост Прэзідэнта СССР, над Крамлём у Маскве апушчаны чырвоны сцяг СССР.

***

**1998 год.** Адбыўся першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі. Яно складала 10 045 200 чалавек (з іх 8 159 100 – беларусаў). Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





Карта СТА ў Маладзечне



9 студзеня ў "РГ"

У нумары 2 "Рэгіянальная газета" рыхтуе тэматычную старонку. Запрашаем рэкламадаўцаў.

Звяртайцеся:
(8-0176) 75-38-42
(8-044) 566-26-99

ОАО «Молодечноторг». УНП 600128795






кондитерского цеха ОАО «Молодечноторг» и собственное производство

*Ежедневно с 8:00 до 16:00*
**В МАГАЗИНЕ «ГОРЯЧИЙ ХЛЕБ»**
***на рынке райпо*** (колхозный рынок)




Віншуем усіх з Калядамі і Новым годам!

*Запрашаем на навагоднія карпаратывы*

Гасцініца «Маладзечна», пл. Цэнтральная, 3
(8-0176) 50-10-50,
(8-029) 631-10-50

ООО «Эвис». УНП 600438022

*Кафе-бар «Накат» приглашает!*
*Проведение предновогодних огоньков*



С 25 ПО 30 ДЕКАБРЯ ВКЛЮЧИТЕЛЬНО –
**минимальный заказ от 250 тысяч рублей**
Вас ожидают Дед Мороз и Снегурочка с музыкальной программой, танцами, играми!
*Молодечно, В. Гастинец, 143. ТД «Тройка», 4-й этаж*
**(8-029) 779-17-14, (8-029) 146-61-90**
vk.com/nakat_bar
УП "Клуб Мандарин". УНП 690250964




НОВЫЙ РЕСТОРАН
*быстрого обслуживания в центре Молодечно!*




Здесь вы можете прекрасно провести время с друзьями, попробовать БЛЮДА АЗЕРБАЙДЖАНСКОЙ КУХНИ, заказать специальное мероприятие, банкет, отметить день рождения, отпраздновать свадьбу

***Живая музыка, разнообразная кухня, доброжелательный и приветливый персонал, приемлемые цены (250 тыс. рублей на 1 человека при проведении банкетов, корпоративов)***

- У нас вы можете весело отметить Новогодние праздники.
- Развлекательная программа
- Скидки, акции, подарки!

**Молодечно, Виленская, 1, торговый павильон (бывшая стекляшка) напротив универмага «Молодечно»**



ЧТУП "Бизнесреал-Елена". УНП 691882551


● **НАВАГОДНІ СТОЛ**

# Шэф-повар рэстарана: "Крута, што буду працаваць на Новы год"

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму шэф-повар аднаго з рэстаранаў Маладзечна адзначае Новы год на рабоце. Што будзе на яго святочным стале. Чым улагодзіць сімвал надыходзячага года – Казу.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Дзмітры Місюк на Новы год будзе працаваць. Аднак гэта яго не засмучае.

Шэф-повар аднаго з рэстаранаў Маладзечна **Дзмітры Місюк** спрабаваў паступіць на повара ў Мінскі дзяржаўны гандлёвы каледж тры разы. Трэці раз і стаў для яго паспяховым. Ён не можа патлумачыць, чаму менавіта гэту спецыяльнасць выбраў, мяркуе, што прафесія сама паклікала яго.

### Гатую стэйк – адчуваю, што робіцца з мясам

Прафесію повара ён лічыць мужчынскай.

– Шмат розных мужчын мела поспех у гэтай справе, – гаворыць Дзмітры. – Ёсць нават меркаванне, што менавіта мужчыны могуць адчуць, чаго не хапае ў страве. Мужчыны-повары ў асноўным на кухні толькі на рабоце. Таму гэта не надакучвае, падштурхоўвае да новых здзяйсненняў.

Дома ласуецца тым, што прыгатавала маці. Асабліва яму падабаюцца катлеты.

– Хоць і працую шэф-поварам, – заўважае Дзмітры. – Аднак такія ніколі не атрымліваюцца. Сырнікі ў мамы чамусьці падобныя на пончыкі.

Малады чалавек гаворыць, што адчувае прадукты, з якіх гатуе.

– Калі гатую стэйк, – заўважае хлопец, – здаецца, адчуваю, што робіцца з мясам, наколькі яно насычанае, калі прыгатаванае.

### На навагоднім стале будзе "Гарошак", "Шуба"

Шэф-повар не чакае ад свята нейкіх незвычайных падарункаў, падзей. Магчыма, толькі пераменаў да лепшага.

Падарункі будзе набываць у апошні дзень.

– Затое усё адразу, – усміхаецца Дзмітры. – Стараюся выбраць падарункі па асацыяцыі з чалавекам. Галоўнае ж у падарунку не цана, а ўвага да чалавека, магчымасць зрабіць яму прыемнае.

Шэф-повар прызнаецца, што ніколі не гатуе сам для сябе – не любіць гэтага рабіць. Нашмат лепш радаваць іншых. На Новы год малады чалавек будзе працаваць. Аднак гэта яго не засмучае.

– На рабоце заўсёды весела, – гаворыць ён. – Вельмі крута ад таго, што людзі радуюцца. Ад гэтага ў самога настрой падымаецца.

Навагодні стол у доме Дзмітрыя Місюка падрыхтуе маці.

– Будзе запечаная курыца, – расказвае Дзіма. – Маці робіць яе на бутэльцы, што цяпер не ў модзе. Большасць запякаюць курыцу ў спецыяльных пакетах. Аднак смак не той. Абавязкова "Гарошак", "Шуба", мяса па-французску. Усё традыцыйна.

**Галіна СІНІЦА.**

### Чым улагодзіць сімвал надыходзячага года – Казу

2015-ы – год Казы, або Авечкі. Аднак, каб год удаўся, гаспадыні спрабуюць задобрыць яе адпаведнымі стравамі.

Козы – жывёлы траваедныя. Ім спадабаюцца салаты з ужываннем гароднiны, асабліва морквы, капусты, бурака. Апошні інгрэдыент уваходзіць у склад селядцоў пад шубай. Таму гэта салата можа стаць хітом навагодняга стала.

Садавіна, стравы з малочных прадуктаў, разнастайныя сыры дапамогуць задобрыць сімвал надыходзячага года. Вельмі сімвалічна, калі на стале будзе страва, якая нагадвае авечку.

Ад мяса адмаўляцца не варта. Гарачымі стравамі могуць быць запечаная курыца, бараніна, свініна. Іх абавязкова трэба пасыпаць травамі. Ежы на стале трэба дастаткова, але яна павінна быць лёгкай і карыснай.

А вось кансервы, паўфабрыкаты наўрад ці спадабаюцца Казе.

Пры сервіроўцы стала можна выкарыстаць драўляны посуд або элементы з дрэва. Стол лепш заслаць сінім або зялёным абрусам. У якасці ўпрыгожвання выкарыстаць фігурку авечкі, галінкі елкі.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





# Рэцэпты навагодніх страў

### Салата "Авечка"



*Інгрэдыенты:* 300 грамаў курынага філе, 200 грамаў ананасаў, 100 грамаў сыру, два-тры яйкі, 100 грамаў маянэзу. Для ўпрыгожання зеляніна і адна-дзве масліны.

*Спосаб прыгатавання*

Намалюйце маянэзам два кругі. Адзін – для цела авечкі, другі – для галавы. Курыцу адварыце і астудзіце, наражце невялікімі кавалкамі. Затым пакладзіце слой з ананасаў, сыр надзярыце на дробнай тарцы. Кожны слой прамазвайце маянэзам.

Яйкі адварыце і аддзяліце жаўткі ад бялкоў. Спачатку трэба пакласці жаўток. Бялок надзярыце на дробнай тарцы і пакладзіце яго на тулава авечкі. З бялка можна зрабіць на галаве авечкі шапачку, з маслін – вушкі, вочы, рот і нос.

Зрабіце авечцы ногі і хвост. З зеляніны – луг. Салату падавайце праз некалькі гадзін пасля прыгатавання, каб слаі добра прамоклі.

### Сырны рулет

*Інгрэдыенты:* 400 грамаў сыру, адна вэнджаная грудка, 100 грамаў шампіньёнаў, тры сталовыя лыжкі алею.

*Спосаб прыгатавання*

Сыр надзярыце на буйной тарцы, загарніце ў харчовую плёнку. Апусціце яе ў ваду, якая кіпіць, аднак не датыкайцеся да дна. Варыце, пакуль сыр не стане мяккім. Раскатайце яго, не вымаючы з плёнкі.

Калі ў вас атрымаўся сырны пласт, плёнку можна зняць. Для начыння паражце шампіньёны маленькімі кавалачкамі і абсмажце на масле. Курыную грудку паражце і змяшайце з грыбамі. Выкладзіце ўсё на сырны пласт, скруціце рулетам, загарніце ў цэлафан і пакладзіце ў халадзільнік. Упрыгожце пасля зелянінай.

### Салата "Ёлачка"



*Інгрэдыенты:* 300 грамаў нятлустай свініны, дзве бульбіны, тры звараныя ўкрутую яйкі, дзве цыбуліны, два салёныя агуркі, адна морквіна, маянэз.

*Для ўпрыгожвання:* кроп, гарошак, агурок, жоўты ці чырвоны перац.

*Спосаб прыгатавання*

Адварыце мяса, гародніну, яйкі. Усе інгрэдыенты наражце кубікамі і перамяшайце. Запраўце маянэзам. Салату выкладзіце горкай на плоскую талерку.

Зверху змажце маянэзам, упрыгожце галінкамі кропу. З чырвонага перцу зрабіце зорачку, пастаўце на макушку ёлкі. З перцу – кружочкі для ёлачкі.

Калі выкладаеце салату ў талерку, ёлку можна зрабіць з гарошку.

### Тарталеткі з сырам

*Інгрэдыенты:* дзве ўпакоўкі тарталетак па дзесяць штук, тры плаўленыя сыркі, тры курыныя яйкі, тры зубкі часнаку, 150 грамаў маянэзу.

*Спосаб прыгатавання*

Яйкі зварыце і надзярыце на дробнай тарцы. Плаўленыя сыркі пакладзіце ў маразілку, пасля надзярыце на буйной тарцы. Выцісніце часнок праз часночніцу. Змяшайце ўсё з маянэзам. Атрыманую масу пакладзіце ў тарталеткі.

### Салата "Навагодні баль"

*Інгрэдыенты:* 5 яек, адно філе, шклянка чарнасліву, дзве цыбуліны і морквіны, па палове бляшанкі кукурузы і гарошку, 300 грамаў грыбоў (лепш шампіньёнаў), маянэз.

*Спосаб прыгатавання*

Адварыце яйкі і мяса, паражце гародніну, грыбы абсмажце з цыбуляй. Выкладзіце інгрэдыенты слаямі, прамажце маянэзам.

### Жэле смятаннае



*Інгрэдыенты:* чатыры пачкі жэле, 15 грамаў харчовага жэлаціну, 300 грамаў смятаны, 100 мілілітраў малака, 50 грамаў цукру, палова чайнай лыжкі ванільнага цукру.

*Спосаб прыгатавання*

Змешваем жэлацін з малаком і пакідаем на паўгадзіны, каб жэлацін растварыўся.

Гатуем фруктовае жэле, згодна з інструкцыяй на ўпакоўцы. Гэта будзе першы слой. Пасля прыгатавання заліваем яго ў глыбокі посуд, прыбіраем у халоднае месца.

Можна заняцца малочным жэле. У разбухшы жэлацін з малаком дадаём смятану і цукар. Грэем на маленькім агні, каб жэлацін растварыўся. Астуджваем прыкладна да 40 градусаў.

Калі першы слой застыў, заліваем малочнае жэле. Пасля фруктовае. Такім чынам чаргуем слаі.

Прыгатаваны дэсерт можна перавярнуць у асобную талерку або рабіць парцыйна ў маленькіх кубачках.

### Салата "Падарунак"

*Інгрэдыенты:* 300 грамаў курынай грудкі, марынаваныя агуркі, тры яйкі, адна морква, 300 грамаў шампіньёнаў, адна цыбуліна, маянэз, чырвоны перац.

*Спосаб прыгатавання*

Грудку, моркву, шампіньёны, яйкі адварыце. Калі астынуць, паражце кавалачкамі. Цыбулю папырскайце воцатам і лімонам, абдайце кіпенем. Так цыбуля не будзе горкай. Выкладаем слаі салаты: грудка, агуркі, морква, яйкі, цыбуля, шампіньёны. Кожны слой прамазваем маянэзам. Напрыканцы малымі кавалкамі наражце перац, упрыгожце ім салату. Са свежых агуркоў можна зрабіць стужачкі і бант.

### Курыныя рулецікі

*Інгрэдыенты:* курыная грудка, два яйкі, 200 грамаў мукі, 300 грамаў грыбоў, адна цыбуліна, 100 грамаў цвёрдага сыру, соль, перац, алей.

*Спосаб прыгатавання*

Памыйце грудку, прасушыце яе. Разрэжце адну палавіну грудкі ўздоўж, але не даразайце да канца. Атрымаецца як кніга. Пасаліце, паперчыце, дайце пастаяць.

За гэты час падрыхтуйце начынне. Абсмажце грыбы з цыбуляй, дадайце туды сыр, надзёрты на дробнай тарцы. Пакладзіце начынне ўнутр курынай грудкі. Каб яно не вылезла, замацуйце краі зубачысткамі. Укачайце курыныя рулецікі ў муку, абсмажце. Рулецікі можна пратушыць, яны будуць мякчэйшыя.

### Салата-рулет "Пянёк"

*Інгрэдыенты*

*Для бліноў:* два яйкі, мука, шклянка малака, цыбуліна, зеляніна, соль, папрыка.

*Для салаты:* тры яйкі, па дзве морквіны і бульбіны, маянэз, апенькі марынаваныя, вяндліна, зеляніна.

*Для ўпрыгожвання:* плаўлены сырок, два яйкі, апенькі марынаваныя, зеляніна.

*Спосаб прыгатавання*

Спячыце бліны. Для колеру дадайце папрыку, дробнапарэзаную цыбуліну і зеляніну. Атрымаецца 6 бліноў. Іх змажце маслам.

Для начыння надзярыце на тарцы бульбу і моркву, змяшайце. Дадайце парэзаныя яйкі, вяндліну і грыбы. Запраўце маянэзам.

Зрабіце пянёк. Пакладзіце на стол поліэтыленавую плёнку. Разрэжце бліны. Змажце адзін бок плаўленым сыркам, пакладзіце на плёнку.

Уздоўж бліноў пакладзіце начынне. Адзін бок плёнкі згарніце ў рулет. Павінна атрымацца роўная плоскасць. Гэты бок і стаўце на талерку, з яго атрымаецца пень. Калі тырчаць канцы ад бліноў, абрэжце іх. Зрабіце з іх карэньчыкі. Упрыгожце пянёк зелянінай і грыбамі.

**Галіна СІНІЦА.**

## Рэцэпт навагодняй стравы і парады ад шэф-повара рэстарана "Гатэль" Дзмітрыя Місюка

### Фрыкасэ з індычкі (на адну порцыю)

*Інгрэдыенты:* 130 грамаў грудкі індычкі, па 25 грамаў цыбулі і фасолі стручковай, па 40 грамаў памідораў-чэры, радыскі і морквы, чабор і мёд. Апошні інгрэдыент з'яўляецца галоўным узмацняльнікам смаку.

*Спосаб прыгатавання*

Грудку наражце буйнымі кавалкамі, цыбулю паўкольцамі, радыску і памідоры напалову, моркву кружочкамі. Зварыце фасолю.

Грудку абсмажвайце і па чарзе дадавайце цыбулю, потым моркву, радыску, фасолю. У канцы памідоры з мёдам. Повар адзначае, што вельмі важна захоўваць паслядоўнасць кожнага інгрэдыента. Пасля таго, як усё дадалі, гатуем сем хвілін.

Час прыгатавання стравы – 25 хвілін.

### Вялікія кавалкі і менш маянэзу

Пры прыгатаванні салатаў на Новы год шэф-повар Дзмітры Місюк раіць рэзаць інгрэдыенты буйнымі кавалкамі, каб адчуць смак кожнага з іх. Таксама дадаваць у салаты менш маянэзу. Лепш выкарыстоўваць заправкі з алеем, ягадамі, арэхамі. Ці прыгатаваць маянэз у дамашніх умовах.

### Дамашні маянэз

*Інгрэдыенты:* яйка, гарчыца, аліўкавы алей, лімон для смаку, каперсы. Менавіта яны дадаюць пікантнасці страве.

Усе інгрэдыенты ўзбіце блэндарам – маянэз гатовы.

● ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як не згубіць святочны настрой і пазбегнуць стрэсу

**МАЛАДЗЕЧНА. Новы год – адно з важных святаў для людзей. Аднак часта замест святочнага настрою чалавек набывае хранічную стомленасць, раздражнёнасць, лічыць псіхолаг Таццяна Жданава.**

Яна патлумачыла і прычыны, па якіх можа ўзнікнуць стомленасць і раздражнёнасць перад святамі.

– Па-першае, гэта пераднавагодні аўрал на рабоце, – заўважае псіхолаг. – Таму загадзя размяркуйце, што варта зрабіць у першую чаргу. Не кідайцеся са справы на справу. Таксама турботы, звязаныя з арганізацыяй святочных мерапрыемстваў, выхад на работу пасля насычаных святочных дзён могуць забраць шмат сіл.

Перад навагоднімі святамі чакаюць нечага казачнага. Калі фантазіі не апраўдваюцца, гэта прыводзіць да незадаволенасці ўсім светам.

– Некаторыя людзі стараюцца падвесці вынікі года, – расказвае Таццяна Жданава. – Аднак часам гэта прыводзіць да падліку памылак і выклікае незадаволенасць адзін адным. Лепш падумайце пра планы на наступны год. Абмяркуйце іх з блізкімі.

Каб сустрэць Новы год з добрым настроем, прытрымлівайцеся нескладаных правілаў.

– Вызначыцеся загадзя, з кім будзеце адзначаць свята, – раіць псіхолаг. – Пагаварыце пра вашы планы з усімі членамі сям'і. Адразу складзіце спіс таго, што трэба набыць. Калі гэта магчыма, размяркуйце пакупкі. Не пакідайце справы на апошні момант, разлічыце свае магчымасці, рабіце ўсё раўнамерна.

Варта ўзгадаць радасці і ўдачы, якія адбыліся з вамі на працягу года. Запішыце іх на паперы. Часцей перачытвайце, гэта падыме настрой.

– На асобнай паперцы запішыце няўдачы і памылкі, якія здарыліся за год, – раіць Таццяна Жданава. – Аднясіцеся да іх па-філасофску: паразважайце, хто быў вінаваты, падумайце, што зрабіць, каб памылкі не паўтараліся. Каб стала лягчэй, спіс пакамечце і выкіньце.

У пагоні за святочным настроем не забывайцеся на здароўе.

Калі ўдалося справіцца са стрэсам, адчуйце сябе пераможцам: хадзіце з высока паднятай галавой, выпрастанай спіной. Не хваліцеся, што думаюць іншыя.

– Часцей смейцеся над няўдачамі, – сцвярджае Таццяна Жданава, – Смех – лепшы сродак ад няўдач, роспачы і злосці. І лепшыя лекі ад галаўнога болю і стомленасці.

Не перажывайце, калі з падрыхтоўкай да свята нешта пайшло не па задуманаму. Навагодняя ноч асаблівая, але наперадзе яшчэ 365 дзён, і вы ўсё паспееце паправіць.

**Галіна СІНІЦА.**





✔ Праграма тэлебачання ✔ Курсы валют
✔ Гараскоп ✔ Каляндар
✔ Цэны на рынку ✔ Прагноз надвор'я
✔ Рэпертуары

*У кожным нумары!*

**Паспяшайся падпісацца на "Рэгіянальную газету" да 26 снежня**

✓ на пошце па ўсім рэгіёне
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал
✓ праз сайт "Белпошты"

Падпісны індэкс: 63212 (індывід.), 632122 (вед. падпіска)




© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Васіль Лябецкі фінішаваў у марафоне першым

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён распавядае, што дапамагае вытрымаць дыстанцыю ў 42 кіламетры, якую прабег за 3 гадзіны 19 хвілін і 23 секунды.**

У выхадныя, 13 і 14 снежня, Маладзечна прымала Міжнародныя спаборніцтвы па бегу. Забегі на 5, 42 і 100 кіламетраў ішлі ў лёгкаатлетычным манежы дзіцячай юнацкай спартыўнай школы №3. Удзел бралі беларусы, расіяне, украінцы і нават эстонец.

– У мяне былі два асноўныя супернікі – **Валодзя Калінкоў** з Гомеля і **Міхаіл Кажан** з Полацка, – кажа пераможца Васіль Лябецкі. – Міхаіл быў некалі мацнейшы за мяне. А тут прайграў 11 хвілін. Калінкоў бег першы, але пасля яго абагнаў і ў выніку выйграў кіламетр.

Філасофія бегу, на думку спадара Васіля, такая:

– Палову дыстанцыі прабег, пасля можна пакарацца, бо значыць, што дабяжыш стопудова, – адзначае ён. – Да 35 кіламетра бяжыш з жартачкамі, так бы мовіць. Але недзе пасля 36 кіламетра пачынаецца фільм жахаў. І дабягаеш сцяўшы зубы.

## Побач быў сын

Вельмі важна, каб падчас забегу быў нехта побач, хто будзе падаваць ваду, ежу. Бо без гэтага прабегчы такую доўгую дыстанцыю проста немагчыма – арганізм можа не вытрымаць. Занадта шмат вадкасці губляе цела.

Спадару Васілю на дыстанцыі дапамагаў старэйшы сын, **Віталь**. Карміў бананамі, паіў.

**Звычайна спартсмены ядуць і п'юць на хаду. Хтосьці можа спыніцца на некалькі секунд, зрабіць глыток і бегчы далей.**

На такіх спаборніцтвах увогуле прадугледжаны агульны стол, да якога кожны можа падбегчы, штосьці перахапіць і рушыць далей.

– Каб удзельнічаць у такіх забегах, трэба шмат трэніравацца, – зазначае пераможца. – Падчас спаборніцтваў некаторыя сыходзілі з дыстанцыі, некаторых бралі сутаргі, хтосьці масіраваў ногі.

**Васіль Лябецкі лічыць, што, каб заставацца ў форме, трэба ў тыдзень агулам прабягаць 70-100 кіламетраў.**

Ён узяў за звычку ў выхадны дзень прабягаць 35 кіламетраў за раз. А наступны дзень бяжыць 15. Каб агулам атрымлівалася 45.

Так яму ўдаецца прыносіць новыя медалі ў сваю калекцыю.

**Настасся РОЎДА.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

Адзін з пераможцаў міжнароднага марафону ў Маладзечне Васіль Лябецкі.

НАВІНЫ

## Вілейскія футбалісты разыгралі чэмпіянат у Мядзеле

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ.** Гульні чэмпіянату Вілейскага раёна па міні-футболе адбыліся 30 лістапада і 7 снежня. Праходзілі не ў Вілейцы, а ў Мядзеле: у фізкультурна-аздараўленчым цэнтры.

– І раней хацелі правесці турнір у гэтым цэнтры, бо тут добрая зала, – кажа старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. – І якраз зала, у якой звычайна гуляем, на рамонце.

Восем камандаў падзялілі на дзве групы. У першы дзень турніру прайшлі гульні ў групах, а праз тыдзень – стыкавыя гульні.

Чэмпіёнам стала каманда "Чурлёны". У фінале яна абыграла "Юнiёр" з лікам 3:1. На трэцім месцы – каманда "Незалежнасць", на чацвертым – "Рубін".

– Гэтыя чатыры каманды былі больш-менш роўныя па ўзроўню гульні, – пракаментаваў вынікі Ігар Шабан. – "Чурлёнам" удалося перамагчы за кошт доследу гульцоў і правільна выбранай тактыкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

РЭКЛАМА

**Штодня мы прымаем безліч рашэнняў, малых і вялікіх, прафесійных і асабістых. За гэтымі жыццёвымі клопатамі нам не стае часу на тое, каб задумацца і вырашыць, якім бы мы хацелі бачыць свой зыход, а тым больш абмяркоўваць гэта з роднымі і блізкімі. У нашым грамадстве не прынята размаўляць на тэму смерці. Дзеля таго, каб пераадолець гэта сацыяльнае табу, у верасні 2014 года чэшскае грамадскае аб'яднанне Cesta Domu ("Вяртанне") распачало інфармацыйную кампанію "Падумайце аб Смерці", якая выклікала шырокі рэзананс не толькі ў Чэхіі, але і далёка за яе межамі.**

# СЫСЦІ ГОДНА

## Спіс апошніх пажаданняў

З дапамогай адмыслова створанага сайта – **Thinkaboutdeath.org** – кожны мае магчымасць скласці свой асабісты спіс апошніх пажаданняў. Тут можна не толькі выбраць музыку ды вопратку для свайго пахавання, але і выказаць свае страхі перад смерцю ды сфармуляваць апошнюю волю. Гэты спіс застанецца прыватным, і яго не ўбачаць іншыя інтэрнэт-карыстальнікі, але пры жаданні ім можна падзяліцца з сябрамі ў сацыяльных сетках.

Пра мэты кампаніі, яе эфект і планы на будучыню гутарым з Лібарам Ванекам, адным з аўтараў канцэпцыі, і Гэленай Штоганзлавай, менеджарам праектаў Cesta Domu.

***Як узнікла ідэя такой незвычайнай кампаніі?***

**Л.В.:** Ужо 13 гадоў наша арганізацыя аказвае медыцынскую і псіхалагічную дапамогу людзям з апошнімі стадыямі цяжкіх захворванняў і іх сем'ям. Гэта так званая паліятыўная медыцына, скіраваная на паляпшэнне якасці жыцця пацыентаў, якія паміраюць, мінімалізацыю болю і іншых цяжкіх пабочных эфектаў. Штогод мы праводзім сацыялагічнае апытанне на тэму стаўлення да смерці ў грамадстве. Вынікі такога апытання 2013 года яшчэ раз пацвердзілі, што людзі не любяць размаўляць пра смерць. Больш за тое, іх жаданні адносна свайго зыходу не адпавядаюць рэчаіснасці: 78% рэспандэнтаў сказалі, што яны хацелі б памерці дома, але пра гэтым большасць (69%) памірае ў шпіталях. Пераважна людзі не паспяваюць своечасова сфармуляваць і абмеркаваць сваю апошнюю волю з сем'ямі. Многія ўвогуле ніколі не размаўляюць на тэму смерці. Таму асноўная мэта гэтай інфармацыйнай кампаніі – перакапаць людзей пачаць размаўляць на гэту складаную тэму своечасова. Гэта дапаможа не толькі пераадолець свае асабістыя страхі і самотнасць, але таксама дазволіць родным лепш зразумець і годна выканаць апошнюю волю блізкага ім чалавека.

***На каго ў першую чаргу скіраваная кампанія, улічваючы, што яе асноўным інструментам з'яўляецца інтэрнэт?***

**Г.Ш.:** Першапачаткова мы планавалі, што нашай асноўнай мэтавай групай будуць маладыя людзі ва ўзросце 20–25 гадоў – найбольш актыўныя інтэрнэт-карыстальнікі. Мы зыходзілі з таго, што моладзі, для якой смерць уяўляецца вельмі аддаленай і даволі абстрактнай перспектывай, будзе крыху прасцей закрануць гэту няпростую і эмацыйную тэму ў размовах са старэйшым пакаленнем: скажам, са сваімі бабулямі і дзядулямі. Яны б сталі своеасаблівымі праваднікамі ў сваіх сем'ях.

**Л.В.:** Мы былі шчыра здзіўленыя, калі заўважылі, што больш за 50% наведнікаў сайта кампаніі – гэта людзі ва ўзросце 35+, пры гэтым 7% з іх складаюць тыя, каму больш за 65 гадоў. Магчыма, гэта вынік таго, што кампанія атрымала шырокі розгалас у традыцыйных СМІ (газетах, ТБ і радыё). Да яе далучыліся знакамітасці – пісьменнікі, артысты, мастакі, – якія разважаюць пра сваё стаўленне да смерці. Хтосьці даў вельмі глыбокія, інтэлектуальныя адказы ў форме эсэ. Іншыя запісалі кароткія відэазвароты. Для многіх гэта быў першы раз, калі яны задумаліся пра смерць, сваю апошнюю волю ды публічна падзяліліся сваімі разважаннямі.

***Якой была рэакцыя грамадскасці?***

**Л.В.:** Вельмі станоўчай. Нешта кшталту: "Нічога сабе! Я ніколі пра гэта не думаў. Гэта цікава". Сродкі масавай інфармацыі падхапілі нашу ідэю, гэта прыцягнула ўвагу шырокіх колаў людзей, што, у сваю чаргу, дазволіла распачаць больш грунтоўную дыскусію ў грамадстве. За тры месяцы ад пачатку кампаніі на нашым сайце пабывала каля 45 тысяч наведнікаў. На сённяшні дзень больш за 800 чалавек стварылі свае онлайн-"спісы апошніх пажаданняў". Вельмі часта такі спіс складаюць сем'ямі: дзеці з бацькамі, унукі з дзядулямі і бабулямі. Кампанія стала мостам паміж пакаленнямі, дапамагла сем'ям зблізіцца, пераадолець парог маўчання. Для нас важнай з'яўляецца не колькасць, а вось гэты працэс дыялогу. Нашы чытачы дзеляцца з намі сваімі вельмі кранальнымі асабістымі гісторыямі.

***А ці вы самі склалі свае спісы апошніх жаданняў?***

**Г.Ш.:** Так, я гэта зрабіла, і гэта быў вельмі цікавы, часам складаны досвед, які прымусіў пераасэнсаваць некаторыя рэчы. Спачатку, калі ты выбіраеш музыку ці вопратку для свайго будучага пахавання, усё гэта падаецца забаўкай. А вось калі я пачала фармуляваць для сябе свае ўласныя страхі перад смерцю, то гэты момант быў вельмі эмацыйным і важным. Крыху паразважаўшы, я падзялілася са сваімі сябрамі ў "Фэйсбуку" толькі часткай свайго спіса, але некаторыя рэчы былі настолькі асабістымі, што іх я пакінула выключна для сябе.

**Л.В.:** Я яшчэ ў працэсе. Мы робім гэта разам з жонкай.

***Ці плануеце вы пашыраць кампанію за межамі Чэхіі?***

**Л.В.:** Жаданне ёсць, але паколькі кампанія робіцца на нашы ўласныя сродкі і дабрачынныя ахвяраванні, то рэсурсы ў нас абмежаваныя. Аднак гэтай ідэяй вельмі зацікавілася Еўрапейская асацыяцыя паліятыўнай дапамогі, у якой ёсць аддзяленні ў многіх еўрапейскіх краінах, а таксама ў Расіі. Мы спадзяёмся, што наша супрацоўніцтва будзе плённым. Нядаўна мы запусцілі англамоўную версію сайта кампаніі. І зараз, дарэчы, шукаем валанцёраў, якія б дапамаглі перакласці і лакалізаваць (падабраць уласцівыя для сваёй краіны прыклады музыкі, вопраткі і іншай атрыбутыкі пахавання) наш сайт на іншыя мовы. Калі кагосьці з Беларусі зацікавіць такая магчымасць, калі ласка, пішыце мне на электронную пошту: **libor.vanek@cestadomu.cz**, на чэшскай мове.

*Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы грамадскага аб'яднання Cesta Domu (г. Прага, Чэшская Рэспубліка)*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● КІНО

# “Хобіт” зноў прэтэндуе на лідарства па зборах

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэцяя частка папулярнага фэнтэзі не саступае сваім папярэдніцам.**

Прэм’ера “Хобіт: Бітва пяці войскаў” стартавала ў Маладзечне і Вілейцы аднaчасова з Расіяй – 11 снежня.

На гэтых выхадных падчас фільма ў зале былі запоўненыя ўсе 296 месцаў.

Раніцай у чацвер, у першы дзень паказу, ужо раскупілі 131 білет.

Дырэктар маладзечанскага філіяла “Мінаблкінавідэапракату” **Таццяна Дрозд** прагназуе, што фінальная частка гісторыі будзе для кінатэатра “Радзіма” самым касавым фільмам года.

– Традыцыйна снежаньскія прэм’еры вельмі запатрабаваныя, – распавядае спецыяліст. – Аднaчасова з Расіяй 25 снежня выйдзе навагодняя камедыя “Ёлкі 1914”, якая адназначна будзе карыстацца поспехам. А ў першы дзень года запрашаем гледачоў на чаканы мультфільм-прыгоды “Тры багатыры: Ход канём”.

Студзень рыхтуе адразу некалькі прэм’ер: фэнтэзі пра змаганне з цёмнай магіяй “Сёмы сын”, мультфільм “Снежныя каралева 2: Перазамарозка” і экранізацыя біблейскага сюжэта пра Майсея “Вынік: Цары і багі”.

Сярод самых папулярных сёлетніх прэм’ер:

1. Фантастыка “Трансформеры 4: Эпоха знішчэння” – 3 471

2. Біблейская эпічная драма “Ной” – 2 884

3. Навукова-фантастычны фільм “Інтэрстэлар” – 1725

**Чаму любяць “Хобіта”**

Заключная частка эпічнага фэнтэзі вабіць фанатаў дакладнай прамалёўкай уяўнага свету і прывабнымі героямі. Тут нават самы звычайны ўзломшчык-хобіт праварочвае палітычны ход, які мог бы папярэдзіць вайну.

“Хобіт: Бітва пяці войскаў” – гісторыя пра тое, што калі не верыш у герояў, то ніколі іх не ўбачыш і не станеш адным з іх. Як не проста прымаць рашэнні, якія вызначаюць лёс твайго народа. Што першы крок да перамогі над лютым ворагам – перамога над сваёй горшай паловай.

**Цытаты**

1. – Як прайшоў дазор?

– Усё ціха. Дакладаць няма чаго. Міма мяне ніхто не праскочыць!

– Акрамя войскаў эльфаў, напэўна.

2. – Ты сядзіш у гэтым палацы, з каронай на галаве. Але ты цяпер настолькі нікчэмны, як ніколі.

3. Калі б людзі цанілі свой дом больш, чым золата...

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● РЭПЕРТУАРЫ


Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”
(Маладзечна, вул. Драздовіча, 5–в) запрашае
17 снежня – 6 студзеня на
**“Калядныя падарункі”**
**У праграме:**
– гісторыя–цуд “Шчаўкунчык”
– Дзед Мароз, Снягурачка, казачныя героі
– карагод каля ёлкі
– танцы, гульні, конкурсы
*Чакаем у “Батлейцы” ўсіх!*
Заказ білетаў і даведка
**(8-0176) 75-36-73, 76-84-27**
УНП 600136804


## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**УВАГА!
ДЗЕЦІ І ДАРОСЛЫЯ, ЯКІЯ ЯШЧЭ НЕ ЗАБЫЛІСЯ, ШТО НЕКАЛІ БЫЛІ МАЛЕНЬКІМІ!**

20 і 21 снежня ў 12:00 і 22-29 снежня ў 10:30 і 13:00

**ЗАПРАШАЕМ**

**на навагоднюю музычную казку для ўсёй сям’і “ХІТРЫКІ МАДАМ ЗАВІРУХІ”, дзе вы сустрэнецеся са сваімі старымі знаёмымі: ДЗЕДАМ МАРОЗАМ, СНЯГУРАЧКАЙ І ІХ ВЕРНЫМІ СЯБРАМІ – СНЕГАВІКОМ І МЯДЗВЕДЗЕМ, якія будуць змагацца з зайздросліай МАДАМ ЗАВІРУХАЙ і яе праставатымі памагатарамі – БУКАЙ І БЯКАЙ.**

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

**ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР-БЕНЕФІС МАЙСТРА СЦЭНЫ АЛЕНЫ РАХМАНГУЛАВАЙ**

ПРЭМ’ЕРА. “**Вакзал на траіх**”, *Ігар Балабко*

27 снежня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).

E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна




*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды “**Феі: Легенда пра пачвару**”, 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 17:00
20 снежня – у 15:30
21 снежня – у 14:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды “**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца**” (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
22 снежня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды “**Пінгвіны Мадагаскара**”, 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
20 снежня – у 13:30
21 снежня – у 16:00
24 снежня – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя “**Нязносныя босы-2**” (ЗША, 2014, пасля 16 год)
19 снежня – у 19:00
21, 23 снежня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды “**Хобіт: Бітва пяці войскаў**”, 3D (ЗША, Новая Зеландыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 снежня – у 21:30
20 снежня – у 17:30
20, 22, 24 снежня – у 21:00
21, 23 снежня – у 18:00
25 снежня – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм’ера! Анімацыя, камедыя “**Астэрыкс: Зямля багоў**”, 3D (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 14:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм’ера! Навагодняя камедыя, драма “**Ёлкі 1914**” (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 снежня – у 20:00 (цана білета: 45 000 рублёў)
25 снежня – у 22:00 (50 000 рублёў)

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя “**Паштальён Пэт**” (Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19, 20 снежня – у 16:30
21 снежня – у 14:30
25 снежня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**7-ы гном**” (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
20 снежня – у 14:30
25 снежня – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Драма “**Роля**” (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 снежня – у 16:30
23 снежня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер, жахі “**Таямніца перавалу Дзятлава**” (Расія, ЗША, 2013, пасля 16 год)
19, 23 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік “**Анёл-ахоўнік**” (Германія, пасля 16 год)
19, 24 снежня – у 18:30
20 снежня – у 19:00
21, 25 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыйная меладрама “**Каханне па рэцэпце і без”** (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, пасля 16 год)
20, 22 снежня – у 21:30
21, 25 снежня – у 19:00
24 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама “**Хоць раз у жыцці”** (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20, 25 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік “**Падзенне Алімпа**” (ЗША, з 16 год)
19, 21 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя “**ОЗ: Вяртанне ў Ізумрудны горад**” (ЗША, Індыя, без узроставых абмежаванняў)
20, 21 снежня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Драма “**Роля**” (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Сямейны “**Дзённік мамы першакласніка**” (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 снежня – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя “**Красуні ў Парыжы**” (Францыя, з 18 год)
24, 25 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя “**Феі: Легенда аб пачвары**” (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
19, 20, 21, 24 снежня – у 17:00
Цана білета – 30 000 рублёў

Фэнтэзі/прыгоды “**Хобіт: Бітва пяці войскаў**” (3D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20, 21, 24 снежня – у 19:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **“Астэрыкс: Зямля багоў”** (3D, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
25 снежня – у 16:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Навагодняя камедыя “**Ёлкі 1914**” (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25 снежня – у 18:00, 20.30
Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 9 | 1 | | | | 6 |
| | | | | | 4 | 2 | | 9 |
| | | 4 | 8 | | | | 1 | 5 |
| 1 | | 9 | 2 | | | | | |
| | | 2 | | | | 1 | | |
| | | | | | 1 | 9 | | 7 |
| 9 | 5 | | | | 3 | 6 | | |
| 3 | | 6 | 1 | | | | | |
| 2 | | | | 8 | 9 | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● **ГАРАСКОП 19-25 СНЕЖНЯ**

**Авен.** Займіцеся ўпрыгожваннем дома да святаў, пастаўце ёлку. І ў ваша жыццё ўвойдзе казка.

**Цялец.** Рыхтуйцеся да святаў і ўсяляйце ў сябе казку. І яна абавязкова прыйдзе да вас.

**Блізняты.** Калі вам захочацца новых уражанняў, то можна адправіцца ў якую-небудзь турыстычную паездку і адчуць там набліжэнне навагодніх святаў. Толькі не сядзіце ўвесь час у сацыяльных сетках.

**Рак.** Падарункі і святы могуць падарваць сямейны бюджэт. Але вы можаце набыць тое, пра што марылі. Шопінг удасца на славу!

**Леў.** Спрыяльны час, каб увасобіць у жыццё самыя патаемныя мары. Дзейнічайце рашуча і смела і ведайце, што зоркі на вашым баку. Упрыгожвайце свой дом да святаў, каб энергія радасці, святла і любові запоўніла вас і перадалася іншым.

**Дзева.** Не паддавайцеся спакусам, своечасова адыходзьце ў бок і пераключайце ўвагу на што-небудзь іншае. Дыпламатычнасць і абаянне дазволяць вам пераадолець любыя перашкоды.

**Шалі.** Вы будзеце абаяльнымі ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, па-другое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі.

**Скарпіён.** Правядзіце нечаканы эксперымент са сваім гардэробам. Нешта выкіньце ці аддайце, нешта новае набудзьце да святаў. Паспрабуйце скамбінаваць рэчы, якія вы ніколі раней не рашаліся надзець разам.

**Стралец.** Перыяд парадуе тых, хто схільны да творчай дзейнасці, спрабуе розныя спосабы самавыражэння. А яшчэ дзякуючы збегу абставін ці сваім аналітычным здольнасцям вы можаце атрымаць ключ, які адчыніць дзверы да поспеху і новых дасягненняў.

**Казярог.** У вас адчуецца прыліў сіл і бадзёрасці. У тых, хто знаходзіцца ў шлюбе, жыццё зайграе новымі яркімі фарбамі. Ствара йце сваю навагоднюю казку.

**Вадалей.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самыя галоўныя.

**Рыбы.** Памятайце, што самыя здаровыя і прыгожыя людзі – гэта тыя, якіх нічога не раздражняе. Рыхтуйцеся на святаў. Упрыгожвайце дом, стварайце казку самі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

